# СЬВЯТА 25 САКАВІКА Ў ТАРОНЬЦЕ



Фрагмэнт залі ў часе ўрачыстага Сходу

55-ыя ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнае незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі адзначылі Беларусы, задзіночаныя ідэаламі Сакавіковага Акту, пад кіраўніцтвам Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, у нядзелю 25 сакавіка ў Тароньце. У выніку стараньняў ККБК бурмістр Таронта Дэвід Кромбі абвесьціў адмысловай праклямацыяй дзень 25 сакавіка 1973 г. „Беларускім Днём“. Бел-чырвона-белыя сьцягі, што ўзьвіваліся ля Ратушы Таронта ды ля сялібаў беларускіх асяродкаў — Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру й царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай — сьветчылі пра тое, што беларускі нацыянальна-вызвольны рух жыве.

Нараніцы ў цэрквах Сьв. Еўфрасіньні Полацкай і БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага адбываліся ўрачыстыя Багаслужбы за Беларусь і ейны Народ.



Удзельнікі праграмы ўрачыстага Сходу

Папаўдні адбыўся ў вялікай харвацкай залі пры 1650 Дупонт эвэню Урачысты Сход. Сход пад кіраўніцтвам Сп-ні Івонкі Сурвілы пачаўся выкананым аркестрай Б. Лішчонка канадыйскім гімнам „О, Канада!“ ды словамі верша Янкі Купалы „Ўжо днее“, прарэцытаваным Д-рам Раісай Жук-Грышкевіч. Кіраўнічка Сходу Сп-ня Івонка Сурвіла пасьля ўступнага слова пабеларуску й паангельску прадставіла галоўнага прамоўцу гасьця із ЗША Д-ра Вітаўта Кіпеля, абсальвэнта Лювэнскага ўнівэрсытэту, які цяпер працуе заступнікам шэфа Навуковага аддзелу Публічнай Бібліятэкі ў Нью Ёрку. (Тэкст ягонага дакладу будзе надрукаваны ў „Беларусе“).

З прысутных гасьцей прамаўляў прадстаўнік Фэдэральнага Дзяржаўнага Дэпартаманту Г. П. Ален. Ён заўважыў, што сьвяткаваньні Дня Незалежнасьці Беларусі, на якіх ён бывае із Сп-няй Дорыс Ален ужо ад колькіх год, наводзяць яму на думку „Фэмілі рэюньён“, бо на іх зьяжджаюцца Беларусы з розных канцоў Правінцыі. Ад украінскага грамадзтва прамаўляў сп. Я. Коляскі, аўтар трох кніжак у ангельскай мове пра Савецкую Украіну.

Былі атрыманыя наступныя пісьмовыя прывітаньні: ад Фэдэральнага ўраду вітаў Міністар для справаў шматкультурнасьці Д-р Станлей Гайдаш, ад Антарыйскага ўраду — Прэм'ер Антарыя Сп. В. Г. Дэвіс і Міністар скарбу Сп. Ален Гросман. Вельмі прыгожае прывітаньне прыслаў Правінцыяльны Сакратар для справаў сацыяльнага разьвіцьця Сп. Робэрт Вэлш. Ад Фэдэральнага Парляманту прывітаў лідэр апазыцыі й ад Прагрэсыўна - Кансэрватыўнае партыі Сп. Робэрт Л. Станфільд ды лідэр Нова-Дэмакратычнае партыі Сп. Дэвід Люіс, родам зь Беларусі. Ад гораду Таронта вітаў ягоны Бурмістр Дэвід Кромбі.

Ад беларускіх арганізацыяў пісьмовыя прывітаньні прыслалі: Галоўная Управа Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, Аддзел ЗБВБ у Манчэстары, Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі (Аўстралія), Галоўная Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Аддзел БАЗА ў Дэтройце, Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага, Галоўная Управа Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, Беларуска-Амэрыканскае Аб'яднаньне ў Нью Ёрку, Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі, Галоўная Управа Беларускага Вызвольнага Фронту ў Нямеччыне.

Пасьля кароткага перапынку Сп-чна Эва Пашкевічанка абвесьціла пабеларуску й паангельску, што першым нумарам мастацкай праграмы будзе верш Алеся Гаруна „Ты мой брат“ у рэцытацыі Язэпа Пітушкі малодшага, які пасьля гэтага вёў функцыю канфэрэнсье да канца праграмы. Далей ішлі народныя танцы „Лявоніха“ й „Юрачка“ ў выкананьні ўжо ведамай танцавальнай групы „Лявоніха“. Ды й малодшыя ўдзельнікі праграмы паказалі сваё ўмельства ў груповай дэклямацыі вершу Максіма Танка „Журавель і Чапля“.

Танцавальная група „Лявоніха“ яшчэ добра выканала народны танец „Полька Янка“, а дзеці — танец „Таўкачыкі“. Апошнім нумарам праграмы быў танец-пантаміна „Вёска“. Гэты арыгінальны абразок быў цікавы, пацешны й прыгожы. Галоўную ролю ў ім гуляла пара танцораў Эва Пашкевічанка й Барыс Кірка. Другой салёвай парай, у танцы якой вычувалася таксама добрае падрыхтаваньне, былі Паўлінка й Ганулька Сурвілянкі. Ды найпацешней было назіраць, калі больш за тузін дзяцей у веку ад 5-ці — 6-ці год, дзяўчаткі й хлопчыкі, усе ў нацыянальнай вопратцы, высыпаліся ў скоках на заінсцэнізаваную „вясковую вуліцу“, дзе выканалі з усімі фігурамі „Лявоніху“.

Танцамі кіравала дый прыгатавала ўсю мастацкую праграму, ня без дапамогі свае маці Сп-ні Валі Пашкевіч, Эва Пашкевічанка. Да танцаў іграла аркестра Б. Лішчонка.

Урачысты Сход закончыўся агульным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі“.

Рада ККБК шчыра дзякуе ўсім тым, што працавалі над падрыхтоўкай Сакавіковых урачыстасьцяў, кіраўніком і ўдзельнікам праграмы Сходу. Дзякуе тым, што прыйшлі на Сход, што віталі яго асабіста й пісьмова. Дзякуе Бурмістру Таронта Дэвіду Кромбі за праклямаваньне „Беларускага Дня“ й за дазвол на ўзьняцьце беларускага сьцягу ля Ратушы Таронта.

**Р. Жук-Грышкевіч**

# УГОДКІ 25 САКАВІКА Ў МЭЛЬБУРНЕ

55-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ўшанавалі Беларусы ў Мэльбурне (Аўстралія) ў нядзелю 25 сакавіка ў сваім собскім Беларускім Доме ўрачыстым Сходам, закончаным сяброўскім вечарам. Як і папярэднімі гадамі, ладзіў сьвяткаваньне Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі. Пагода добра спрыяла, настрой удзельнікаў быў бадзёры і хоць мастацкая праграма была карацейшая, чымся звычайна, сьвяткаваньне прайшло ўдала, зацягнулася да познага вечара й пакінула пазытыўнае ўражаньне.

Сход пачаўся аўстралійскім гімнам у выкананьні мяшанага хору пад кіраўніцтвам П. Мікуліча. Афіцыйна адчыніў Сход і прывітаў прысутных із сьвятам старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту М. С. Былі прачытаныя два рэфэраты на тэму дня — сп. А. Калодкі пабеларуску пра легалізм БНР і спні Н. Грушы паангельску, апрацаваны сп. Шэко. Пасьля рэфэратаў хвілінаю цішыні была ўшанаваная памяць Змагароў за Беларусь ды былі прачытаныя прысланыя прывітаньні. Замыкаючы афіцыйную частку, старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту падчыркнуў, што змаганьне за вольную Беларусь працягваецца і на Бацькаўшчыне, і ў цэлым сьвеце беларускай эміграцыяй. Ён заклікаў прысутных да далейшае ахвярнае працы дзеля зьдзейсьненьня сакавіковага ідэялу.

Мастацкую праграму распачаў мяшаны хор песьнямі „Падняты родны сьцяг дзяржавы“ і „Ой, ня кукуй, зязюленька рана“. Тады вучні Беларускай Школкі ў Мэльбурне пад кіраўніцтвам сп-ні Э. Яцкевіч прадэклямавалі вершы: Ала Корбут „Вітаньне“ Веры Вярбы, Юрка Корбут „Я ўжо вялікі“ й Віця Грэскоўскі „Генэрал“, а таксама прапялі „Пайшоў Ясь на лужок“. Мяшаны хор прапяяў яшчэ дзьве песьні — „Ці ўжо лугі пакошаны“ і „Янка“, зьбіраючы гучныя воплескі, а студэнт права Жэня Мілаван праіграў на акардэоне вязанку беларускіх мэлёдыяў, зьбіраючы таксама воплескі. Сход закончыўся беларускім нацыянальным гімнам у выкананьні хору й прысутных.

Зачыняючы Сход, старшыня Б. Ц. Камітэту паведаміў пра новую падзею — адчыненьні ў Беларускім Доме бібліятэкі, якая паўстала з кніжак Згуртаваньня Беларусаў у Вікторыі, закупленых Б. Ц. Камітэтам, і ахвяраваных Беларусамі Мэльбурну.

А 5-ай гадзіне папаўдні пачаўся Сяброўскі Вечар. Ладзіўся ён упяршыню на сакавіковае сьвята, але затрымаў бальшыню ўдзельнікаў сьвяткавальнага Сходу й прайшоў зь вялікім посьпехам. Людзі разгуляліся, разгаварыліся, расьсьпяваліся. Напэўна будуць яго доўга памятаць ды з ахвотаю прыйдуць і на наступную ўрачыстасьць — Сьвята Маці, што мае быць зарганізаванае Беларускім Жаноцкім Згуртаваньнем у Беларускім Доме 13 травеня.

Падаючы гэтую кароткую справаздачу із сакавіковага сьвяткаваньня ў Мэльбурне , трэба дадаць, што гэнага-ж дня 25 сакавіка ў БАПЦаркве, пасьля Божае Службы, а. А. Кулакоўскі адслужыў Малебен за Беларускі народ і сказаў прынагодную казань. Але сьвяткавальны Сход, ладжаны агульным Б. Ц. Камітэтам, як найчасьцей і раней, збайкатаваў. Хочацца спытаць — чаму? Ці прыгожыя словы казані адпавядаюць тады дзейнасьці? Ці вымагаючы ад іншых выконваньня царкоўных абавязкаў, самому, хоць-бы дзеля прыкладу, ня трэба было-б выканаць абавязкі грамадзка-нацыянальныя? Знайшлася-б супольная мова і Царква на гэтым толькі скарысталася-б.

**М. Н.**

# СЬВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў СЫДНЭІ

Сёлетняе сьвяткаваньне 55-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ладзілі ў Сыднэі (Аўстралія) супольна Беларускае Аб'яднаньне ў Новай Паўдзённай Валіі і Беларуска-Аўстралійскае Таварыства. За старшыню ўрачыстага Сходу быў загадзя вызначаны Сп. М. Антух. Ён-жа й адчыніў Сход ды папрасіў прысутных ушанаваць памяць змагароў, палеглых за нашую бацькаўшчыну, уставаньнем і хвілінаю цішыні.

З дакладам на тэму дня выступаў сп. А. Смаль, які падчыркнуў, што Акт 25 Сакавіка быў заканамернай і вузлавой зьявай у змаганьні Беларускага народу за незалежнасьць. Пасьля яго сп. Я. Макарэвіч, ведамы наш паэта ў Сыднэі, прадэклямаваў свой верш „Беларусь“. Абодвы яны былі ўзнагароджаныя шчырымі й гучнымі воплескамі.

Апошнім прамоўцам быў Д-р Я. Малецкі, які даў кароткі агляд міжнародных палітычных падзеяў ды нарысаваў незайздросны абраз жыцьця ў Савецкім Саюзе.

Ад імя Украінцаў шчыра й горача вітаў удзельнікаў сьвяткаваньня ведамы ўкраінскі дзеяч Юры Дэнысэнко. Была атрыманая й прачытаная пад бурныя воплескі прывітальная тэлеграма ад беларускіх арганізацыяў у Канадзе. Афіцыйная частка сьвяткаваньня закончылася прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Пасьля гэтага пачаўся супольны пачастунак і заля загудзела. Тут выступіў таленавіты гумарысты й прадэклямаваў тры арыгінальныя свае вершы. Далей ішлі песьні й гутаркі.

**Я. Лаўрыновіч**

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў АДЭЛЯЙДЗЕ

У Беларусаў Адэляйды (Аўстралія) ўваходзіць ужо ў традыцыю сьвяткаваць нашае нацыянальнае сьвята ў Нацыянальным Парку — на ўлоньні прыроды, сярод дрэў і кустоў на зялёнай траўцы. Звычаем леташняга году гэтак было й сёлета.

Дзень выдаўся цудоўны, ясны й сонечны. Сэрбскі сьвятар а. Георг, які заступае а. Васіля на час ягонае хваробы, адправіў урачысты Малебен за Беларускі народ. Сп. П. Трысмакоў у кароткай прамове насьветліў сяньняшнюю сытуацыю на Беларусі й тыя падзеі, што адбываліся тады на бацькаўшчыне, калі народ змагаўся за сваю вольнасьць і незалежнасьць. Пасьля гэтага старшыня Парахвіяльнае Рады сп. Левановіч падзякаваў а. Георгу за тое, што ў цяжкі для нашае парахвіі мамэнт ён ахвотна прыехаў і адправіў для нас Малебен, а таксама сп. П. Трысмакову за ягоны рэфэрат. Хор пад кіраўніцтвам сп. Бурноса прапяяў беларускі рэлігійны гімн „Магутны Божа“.

Пасьля афіцыйнае ўрачыстасьці суродзічы й госьці расьселіся ў цені дрэваў, каб адпачыць і падсілкавацца. Гутарылі, успаміналі мінулае, дзяліліся думкамі пра будучыню. Сп. Рольсон і сп. Жаваронак наладзілі музыку з грамафонных кружэлак і гэтым прыдалі вясёласьці сьвяту. Тады пачаліся розныя гульні дзяцей і дарослых. Пад канец сабралася група ахвотнікаў да песьні. Была разыграная лятарэя й праведзены збор ахвяраў на „Дар 25 Сакавіка“. За добрае зарганізаваньне застаецца шчыра падзякаваць Парахвіяльнай Радзе і ўсім тым, хто собскай ініцыятывай і працай дапамог ёй.

**Прысутны**

### БЕЛАРУСКАЯ ВЕЧАРЫНА Ў АДЭЛЯЙДЗЕ

У сыботу 17 лютага ў Адэляйдзе адбылася беларуская танцавальная вечарына пад вясёлую музыку собскае беларускае аркестры. Вечарына сьцягнула ладную колькасьць Беларусаў з розных куткоў гораду й прыгарадоў, многія зь якіх даўжэйшы час узаемна ня бачыліся. Усіх прыбыло 185 асобаў. На заканчэньне вечарыны быў адыграны беларускі нацыянальны гімн. Увесь даход зь вечарыны быў перададзены ў царкоўную касу БАПЦ.

**Ул. Акавіты**

# ДЗЕНЬ 25 САКАВІКА Ў МАНЧЭСТАРЫ

Беларуская калёнія ў Манчэстары (Ангельшчына) ўрачыста адзначыла 55-я ўгодкі Акту 25 Сакавіка ў нядзелю 1-га красавіка, у якіх прынялі ўдзел і Беларусы з Брадфарду, прыбыўшы адмысловым аўтобусам. Раніцай прат. а. Янка Абабурка, пасьля звычайнай Божай Службы, адправіў урачысты Малебен за Беларускі народ ды сказаў глыбака патрыятычнае казаньне.

Урачысты Сход, прысьвечаны нацыянальным угодкам, адбыўся ў царкоўнай залі. Сход адчыніў старшыня мясцовага Аддзелу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі Х. Кажаневіч, а ў сувязі з тым, што 1-га красавіка й Сьвята Маці, ён прывітаў і беларускіх жанчынаў ды папрасіў у ганаровы прэзыдыюм матушку К. Абабурку й Сп-няў В. Гінько й А. Каралькову.

Сп. Х. Кажаневіч прачытаў атрыманыя прывітаньні: ад Старшыні Рады БНР Д-ра В. Жук-Грышкевіча, Старшыні Галоўнай Управы ЗБВБ Я. Міхалюка й Старшыні Галоўнай Управы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі Спчні Р. Станкевіч, кажнае зь якіх было прынятае гучнымі воплескамі. Рэфэрат на тэму сьвяткаваньня прачытаў Сакратар мясцовага Аддзелу ЗБВБ М. Яськевіч. Афіцыйнае сьвяткаваньне закончылася прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Пасьля гэтага ўдзельнікі сьвяткаваньня былі запрошаныя на супольны абед, які падрыхтавалі беларускія жанчыны пад кіраўніцтвам матушкі Кацярыны Абабуркі, за што належыцца ім шчырая падзяка. У міжчасе быў высьветлены адмыслова зроблены фільм з жыцьця й дзейнасьці Беларусаў у Вялікабрытаніі, які выклікаў шмат цікавасьці й захапленьняў.

**М. Стаўпіскі**

ГАЛОЎНАЯ УПРАВА
**Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі**
ветліва запрашае ўсіх Беларусаў на
**2-ГІ ГАДАВЫ КАНЦЭРТ МАЛАДЗЕЖНЫХ ТАЛЕНТАЎ,**
які адбудзецца ў нядзелю 27 травеня а 3-яй гадзіне папаўдні
ў залі Шака ў Саўт Рывэры, Нью Джэрзі.
Падробная праграма Канцэрту будзе пададзеная пазьней.

# АПАЛЁГІЯ ВАРНЯНСКАЙ ВЕЖЫ

Калі вам давядзецца трапіць на Горадзеншчыну, дык абавязкова наведайце ейную маляўнічую паўночную частку Астравеччыну, падпярэзаную прыгажуняй Вяльлёй, да якое тут далучаюцца Ашмянка й Страча. Перадусім, зьвярніце ўвагу на назвы тутэйшых селішчаў, для якіх характэрныя гэткія, як — Варняны, Варзяны, Масьцяны, Паляны, або — Міхалішкі, Гярманішкі, Кямелішкі. Пры іхным змалку знаёмым гучэньні ўсплываюць у памяці цёплыя радкі з твору незабытнага Алеся Гаруна:

Дзядзька Тодар, два Праньцішкі,
Сват Гілёрык, кум Тамаш
Раз ў мястэчку Зацьвілішкі
Насьмяшылі ўвесь кірмаш.

Багатая на помнікі гісторыі й культуры Астравеччына. У Быстрыцы, што ляжыць на самай Вяльлі, зацікаўцеся стромкай гарой, вядомай у народзе пад назвай Замчышча. Гэта тут, паводля сьцьверджаньня аўтара знанае „Хронікі Вялікага Княства Літоўскага“ (1582) Мацея Стрыйкоўскага была першая сталіца Літоўскіх князёў. У былым мястэчку Міхалішках захаваўся дагэтуль Аўгустынскі касьцёл, пабудаваны Паўлам Бжастоўскім у 1653 годзе. Яму ўласьцівыя апрычоныя рысы беларускага барока, а ў вазданьні ягонага інтэр'еру ўдзельнічаў той самы італьянскі мастак П'етра Пярэці, якому належыць таксама афармленьне выдатнага Віленскага касьцёлу Пятра й Паўла.

У цяперашнім раённым цэнтры Астраўцы, што ляжыць на Лошы, заслугоўвае ўвагі прыгожы Дамініканскі касьцёл. Ён збудаваны ў канцы 18-га стагодзьдзя і таму ў масыўных калюмнах ягонага фасаду выразна вычуваецца ўплыў клясыцызму. У колішнім маёнтку Дубнікі захаваўся занядбаны панскі дом. Сюды ў 80-х гадох мінулага стагодзьдзя, да свайго сваяка па жонцы Браніслава Мінэйкі, прыяжджаў Гэнрык Сянкевіч і менавіта ў гэтым старым доме нарадзіліся многія старонкі зь ягонага „Патопу“. Аднак найбольшае ўражаньне з усіх помнікаў Астравеччыны спакідае архітэктурны ансамбль у Варнянах.

Колішняе мястэчка Варняны, што налічвае цяпер 1280 жыхароў і зьяўляецца цэнтрам аднайменнага сельсавету, знаходзіцца на старым шляху ад Быстрыцы да Астраўца. У гісторыі яны ўпяршыню прыгадваюцца ў 1462 годзе, калі тагачасная тутэйшая ўладальніца Марыяна Сангайлава ахвяравала грошы на пабудову касьцёлу й плябаніі.

# ВОЛЬГА КОРБУТ У ЧЫКАГА

Як ведама, у сакавіку сёлета адбывалася па некаторых гарадох Задзіночаных Штатаў турнэ шасьцёркі найвыдатнейшых савецкіх гімнастак, пераможніц на леташняй Міжнароднай спартовай Алімпіядзе ў Мюнхэне. Але горад Чыкага з гэтага турнэ быў вылучаны. Таму бурмістр Чыкага Рычард Дэйлі зьвярнуўся тэлефанічна да савецкага прэм'ера Касыгіна з просьбай, каб і Чыкага было ўлучанае ў гэтае турнэ. Просьба ягоная была задаволеная. На 26 сакавіка было вызначанае выступленьне на спартовым стадыёне Чыкага групы савецкіх гімнастак, у ліку шасьцёх маладых дзяўчат, сярод якіх былі тры Беларускі: **Вольга Корбут з Горадні,** што на Алімпіядзе ў Мюнхэне заваявала тры залатыя й адзін сярэбраны мэдаль і сэрцы ўсяго сьвету, **Тамара Лазаковіч** зь **Віцебску** й **Антаніна Кошаль зь Менску.** З нагоды прыезду Вольгі Корбут бурмістр Чыкага Р. Дэйлі выдаў праклямацыю, абвесьціўшы дзень 26 сакавіка **Днём Вольгі Корбут!** Таго-ж самага дня прыймаў яе ў Гарадзкой Управе Чыкага і выдаў ёй мэдаль з дыплёмам, якім прызнаў ёй ганаровае грамадзянства гораду.

Прыезд Вольгі Корбут у Чыкага ўзварушыў Беларусаў гэтага гораду. Перш за ўсё яшчэ да прыезду Вольгі Корбут у Чыкага трэба было пратэставаць супраць называньня амэрыканскай прэсай, радыям і тэлевізіяй Вольгі Корбут „Расейкай" — „Рашан". Сп-ня Вера Рамук ад імя беларускага грамадзтва разаслала пратэсты, патрэбныя даведкі й брашуры ў рэдакцыі газэтаў, на тэлевізыйныя й радыёвыя станцыі, да гарадзкіх і штатавых уладаў, у Кангрэс і Белы Дом, Дзяржаўнаму Сакратару Роджэру й Прэзыдэнту Ніксану супраць хвальшаваньня праўды пра Беларусь, супраць прыпісваньня заслугаў Беларусаў на рахунак Расеі.

Другой справай было нашае дамаганьне ад уладаў, каб беларуская дэлегацыя была дапушчаная на аэрадром О'Гара ў часе прылёту Вольгі Корбут з групай, і каб Беларусы ўрачыста маглі сустрэць сваю слаўную суаўчыньніцу разам зь іншымі беларускімі дзяўчатамі й іхнымі трэнэрамі. Было цімала цяжкасьцяў. Мясцовыя ўлады паклікаліся на меры бясьпечнасьці, што за звышпраграмнае прыбыцьцё спартовай групы ў Чыкага нясе асабістую адказнасьць Бурмістр Дэйлі, і г. д. І тут актыўнасьць і стараньні нашай групы зрабілі сваё: нам было дазволена зарганізаваць беларускае спатканьне Вольгі Корбут і іншых беларускіх дзяўчат з прывітальнымі транспарэнтамі, кветкамі й з кароткай прывітальнай прамовай.

І вось а 8-й гадзіне вечарам 25 сакавіка пры варотах лётніцкай лініі, якой прыляцела Вольга Корбут з групай, на першым месцы паліцыя ўстанавіла нашую групу да сотні чалавек старэйшых і моладзі, зь якой бальшыня зьявілася ў нацыянальных касьцюмах, зь вітальнымі транспарэнтамі да 5-ці мэтраў даўжыні. Зьвярнула гэта ўвагу рэпартэраў газэтаў, радыёвых і тэлевізыйных станцыяў, якія кінуліся да групы браць інтэрвю. За хвіліну ў кардоне паліцыі зьявілася Вольга Корбут наперадзе групы. Сп-ня Вера Рамук у кароткіх словах прывітала Вольгу Корбут і перадала ёй букет рожаў. Здымак Вольгі Корбут зь беларускай групай і кветкамі падала ўся чыкаская прэса 26 сакавіка на першых бачынах, а вечарам 25 сакавіка тэлевізыйныя станцыі падавалі ўрыўкі зь беларускай вітальнай дэманстрацыі на О'Гара.

Адна зь вялікіх чыкаскіх газэт „Чыкага Трыбюн" у нумары за 27 сакавіка гэтак апісвала прыняцьцё Вольгі Корбут на спартовым стадыёне: **„Вольга Корбут у вадзін міг заваявала на стадыёне вялізарную грамаду энтузіястых. З паднесенай галавой, із сардэчнай усьмешкай яна прадставілася публіцы, энтузіястычна махаючы ўзьнятымі рукамі, тады калі ўся савецкая каманда стаяла „на зважай", ськіваваная тварам да свайго кіраўніка, а тылам да публікі. Заля проста шалела авацыямі й выкрыкамі ў чэсьць Вольгі. Як маланкі зьзялі ўспышкі фотаапаратаў. А пасьля, калі яна выйшла на ўладжаньні, каб паказаць сваё гімнастычнае мастацтва, аўдыторыя застыла ў цішыні: гэтак цудоўнага мастацтва дасюль ніхто ня бачыў. Сакрэт яго заключаўся ў тым, што як Вольга, гэтак і іншыя беларускія дзяўчаты выявілі свой нацыянальны спартовы стыль, які выражаўся ў нябачанай дасюль грацыі, свабодзе, жыцьцярадаснасьці, прэцызыі ў надзвычайна складаных актах ды яшчэ з праўдзівай усьмешкай..."**

Наступнага дня (28 сакавіка), калі савецкая група выехала ўжо з Чыкага, тая-ж газэта „Чыкага Трыбюн" зьмясьціла другі артыкул пра Вольгу Корбут у Чыкага, аналізуючы прычыны ейнае славы ўва ўсім сьвеце, а асабліва ў Чыкага:

**„Ведама, многа да гэтага спрычыніўся бурмістр гораду Чыкага. Ён выдаў праклямацыю на рукі Вольгі Корбут у Гарадзкой Управе 26 сакавіка, абвяшчаючы гэны дзень — ДНЁМ ВОЛЬГІ КОРБУТ. Пры нагодзе ўручыў ёй бронзавы мэдаль з наданьнем ёй ганаровага грамадзянства гораду Чыкага. Вольга ў часе гэтых урачыстасьцяў у прысутнасьці свайго трэнэра Райнольда Кныша трымалася цудоўна да здымку. Гэта ня было штучнае пазаваньне, характэрнае для таталітарных рэжымаў, дзе кажны рух і ўсьмешка прадыктаваныя партыйнымі дыктатарамі. У Вольгі, як у Мэнхэне, гэтак і ў Амэрыцы, гэткага штукарства ніхто не заўважыў. А ўсе бачылі ў ёй праўдзівую інтэлігентную дзяўчыну Беларуску, якая выяўляла дух сваёй нацыі, што духова належыць да Захаду і заходняй культуры..."**

Іншая чыкаская газэта „Чыкага Сантайм" у сваіх абагульненьнях Дня Вольгі Корбут у Чыкага падчырквала, што сэнс ейных паводзін у тым, што яна, як і Тамара Лазаковіч і Антаніна Кошаль — Беларускі. Таму іхны стыль зырка розьніцца ад савецкіх спартоўцаў ды сугучны з нашай заходняй культурай. Ня дзіва, што ўся ўвага сьвету зьвярнулася да беларускіх спартсмэнак на алімпійскіх гульнях.

**В. Пануцэвіч**

*Уладзімер Караткевіч*

*БЕЛАРУСКАЯ ПЕСЬНЯ*

*Дзе мой край? Там, дзе вечную песьню пяе*
*Белавежа,*
*Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў,*
*Дзе на ўзвышшах Наваградзкіх дрэмлюць суровыя*
*вежы*
*І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро.*
*Ты ляжыш там, дзе сіняя Прыпяць ласкава віецца,*
*Дзе Сафія плыве над Дзьвіною, нібы карабель...*
*Там, дзе сэрца маё зь першым крокам, як молат,*
*заб'ецца,*
*Калі-б нават сьляпым і глухім я прыйшоў да цябе.*
*Што сьляпым? Нават мёртвым успомню высокія*
*зоры,*
*Над ракою чырвонай і цьмянай палёт кажаноў,*
*Белы ветразь на сініх, на гордых, як мора, азёрах,*
*І бары-акіяны, і неба — разьлівы ляноў.*
*Дзе мой край? Там, дзе людзі ніколі ня будуць*
*рабамі,*
*Што за поліўку носяць ярмо ў безнадзейнай турме,*
*Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі,*
*А мужчыны, як скалы — ударыш, і зломіцца меч.*
*Дзе мой край? Там, дзе мудрыя продкі у хвоях*
*паснулі,*
*Дзе жанчыны, як радасны сон у стагох на зары,*
*А дзяўчаты, як дождж залаты. А сівыя матулі,*
*Як жніўё з павуціньнем і добрае сонца ўгары.*
*Там зьвіняць няўміручыя песьні на поўныя грудзі,*
*Там спрадвеку гучыць мая мова, булатны клінок,*
*Тая гордая мова, якую й тады не забудзем,*
*Калі сонца зь зямлёю ў апошні заглыбяцца змрок.*
*Ты — наш край. Ты — чароўная груша над*
*дзедаўскім домам,*
*Лістападаўскіх зьнічак густых фасфарычная рацъ,*
*Ты — наш сьцяг, што нікому, нікому на сьвеце,*
*нікому*
*Не дамо абсьмяяць, апаганіць, забыць ці мячом*
*зваяваць.*
*Мы клянёмся табе баразной сваёй першай на полі*
*І апошняй ральлёй, на якую ўпадзём у журбе.*
*Мы клянёмся табе, што ніколі,*
*Ніколі,*
*Ніколі,*
*Так,*
*Ніколі ня кінем,*
*Ня кінем,*
*Ня кінем цябе.*

*Рыгор Барадулін*

*МАЯ БАЦЬКАЎШЧЫНА*

*З суседзямі падзелішся скарынкаю.*
*Адно ня ўмееш з торбамі прасіць.*
*Як ластаўка,*
*з падстрэшша рук Скарынавых*
*Тваё крыляла слова па Русі...*
*Ты бласлаўляла даланёй кляноваю*
*Сваіх сыноў.*
*Сьлязамі дабяла*
*Бяліла лён на сьвітку Каліноўскаму*
*І Нёмнам ў сны Ўрублеўскага плыла...*

*Зялёнакосымі, тугімі сеткамі*
*Злавіла Сьвітазь юнака спакой.*
*Хоць ён пабраўся*
*зь песьняю суседзкаю,*
*Але вясьнянкі не забыў тваёй...*

*Люблю цябе*
*у веснавых праталінах,*
*У белай хустцы маладых сьнягоў.*
*Як на грыбы,*
*багата ты на таленты —*
*Пільней глядзі і нерушы знаходзь.*

*Радзі, зямля,*
*ты — шчодрая і сьціплая.*
*Каб толькі маразоў ня знала рунь!*
*Імя тваё нашчадкам*
*зь нетраў выплыве —*
*Сівых стагодзьдзяў рэха:*
*— Бе-ла-русь!...*

# З ВЭТЭРАНСКАГА РУХУ Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ



**Актыў Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі**
**Фото: Алега Дубягі**

У лютым сёлета адбылася зборка Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі. Зборка пачалася ўшанаваньнем памяці хвілінаю цішыні беларускіх змагароў, што адыйшлі на вечны супачынак. Тады каманьдзер вэтэранскага задзіночаньня Сяргей Гутырчык прывітаў прысутных, сярод іх маладых беларускіх вэтэранаў, што ўжо адбылі амэрыканскую вайсковую службу. Паміж імі былі й тыя, што збройна змагаліся ў Карэі супраць камуністычнага агрэсара, а таксама й тыя, што змагаліся супраць гэнага-ж ворага ў Ветнамскай вайне. Ёсьць між імі й раненыя. Далучыліся яны да амэрыканскіх вэтэранаў Першае й Другое сусьветных войнаў, што змагаліся ў Эўропе.

Зь інфармацыяў кіраўніцтва выявілася, што вэтэранскае задзіночаньне, апрача нутранае працы ў сваіх радох, праводзіла дзейнасьць і навонкі, пашыраючы інфармацыі пра Беларусь. Падтрымліваецца сталая сувязь зь Міністэрствам Абароны Ізраэля ў Тэль-Авіве, а таксама з арганізацыямі амэрыканскіх вэтэранаў. Ад студзеня сёлета Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі прынятае як раўнапраўны сябра ў „Вэтэранс Алаенс", у якім мае сваё сталае прадстаўніцтва.

Новае беларускае вэтэранскае кіраўніцтва складаецца ў роўных частках зь беларускіх вэтэранаў Другое сусьветнае вайны і з вэтэранаў беларускага паходжаньня, што ўжо адбылі службу ў амэрыканскім войску. У склад новага кіраўніцтва ўваходзяць: Сяргей Гутырчык — каманьдзер, Расьціслаў Войтанка — віцэ-каманьдзер, Павал Кулеш — сакратар, Віктар Лосік — кватэрмайстар, Мікалай Войтанка — скарбнік, Уладзімер Курыла й Віктар Дубяга — сябры кіраўніцтва. Сталымі прадстаўнікамі ў Галоўнай Гасподзе Вэтэранс Алаенс Пост 88: Сяргей Гутырчык і Расьціслаў Войтанка, заступнікамі: Віктар Дубяга й Аляксандар Стагановіч (малодшы).

На зборцы маладымі вэтэранамі жыва дыскутавалася справа зацягненьня будовы памятніка Беларускім Героям. Гэтай дарогай маладыя вэтэраны зьвяртаюцца да сваіх сяброў із заклікам далучыцца да Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў ды зьбіраць ахвяры на Фонд будовы Памятніка Беларускім Героям ў Іст Брансьвік. Зборка закончылася прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

**С. Пчала**

## ФОНД БУДОВЫ ПАМЯТНІКА БЕЛАРУСКІМ ГЕРОЯМ

На Фонд Пабудовы памятніка Беларускім Героям у Іст. Брансьвіку, Нью Джэрзі, паступілі далейшыя ахвяры: 1. Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне ў Нью Ёрку — $ 100.00; 2. Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў Нью Джэрзі — $ 50.00; 3. Адоль Субота — $ 50.00; 4. Янка Азарка — $ 25.00; 5. Міхась Сільвановіч — $ 20.00; 6. Аляксандар Міцкевіч — $ 20.00; 7. Марыя Байчук — $ 5.00; 8. Янка Юхнавец — $ 5.00; 9. Леанід Літаровіч — $ 5.00; 10 Янка Крэсла — $ 5.00.

Кіраўніцтва Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі й Камітэт Пабудовы Памятніка выказваюць усім ахвярадаўцам шчырае дзякуй з вэтэранскім заклікам: „Ён будзе сымбалем нашае пашаны да Тых, хто аддаў сваё жыцьцё за Бацькаўшчыну. Ён будзе прыпамінаць нам і нашым нашчадкам аб тых нязьлічоных ахвярах, якія перанёс і сяньня пераносіць Беларускі народ у сваім змаганьні за Волю й Незалежнасьць!" Дык хай ня будзе ніводнага Беларуса, які-б адмовіўся даць сваю ахвяру на гэтую мэту.

Ахвяры просім прысылаць на адрыс:
Mr. Peter Kazura,
25 Harper Ave.,
Highland Park, N. J. 08904, USA

*Прадстаўніку й Адміністратару газэты „Беларус" на Канаду й актыўнаму ейнаму супрацоўніку*

АНТОНУ МАРКЕВІЧУ

*10 травеня сёлета спаўняецца 50 год ад ягонага нараджэньня.*

*З гэтае нагоды вітаем Паважанага Юбіляра, ад шчырага сэрца жадаем Яму добрага здароўя, жыцьцёвае памыснасьці й далейшае плённае дзейнасьці на беларускай нацыянальнай ніве.*

*Рэдакцыйная Калегія „Беларуса"*

# НОВАЕ ЗЬ БЕЛАРУСІКІ

Нядаўна выйшаў з друку ў польскай мове „Паментнік Віленскі" коштам Польскай Культурнай Фундацыі ў Лёндане, Ангельшчына. Кніга ў цьвёрдай вокладцы абыймае 456 бачынаў друку з многімі ілюстрацыямі й зьмяшчае працы 21 аўтара, выхадцаў зь гістарычнае Літвы, якія закранаюць розныя аспэкты нашай мінуўшчыны ў сьвятле псыхалягічнай праўды, якую яны перажылі ў канцы 19-га ды 20-га стагодзьдзяў да нашых дзён. Сярод іх ведамыя вучоныя й публіцыстыя, як былыя прафэсары Віленскага ўнівэрсытэту В. Сукеньніцкі, С. Сьвяневіч, кс. В. Мэйштовіч, С. Касьцялкоўскі; пісьменьнікі й журналістыя К. Акуліч, В. Хацяновіч, Б. Падоскі, Я. Гадлеўскі, Я. Буйноўскі, Ч. Мілаш, М. Чапская, Ф. Выслаух, М. Паўлікоўскі, М. Богуш-Шышка, Ст. Мацкевіч, В. Лясоцкі, Д. Файнгаўз і іншыя.

Зь беларускага боку ў зборніку выступае В. Пануцэвіч зь вялікім артыкулам на 46 бачынаў друку „Адраджэньне Беларусі й ейныя сучасныя пэрспэктывы". Артыкул вельмі цікавы новымі думкамі, новымі фактамі, новымі паглядамі на адраджэньне Беларусі пры крытычнай ацэне канца 18, 19 і першай палавіны 20 стагодзьдзяў. Даецца таксама вялікі ўводны разьдзел аб нашых нацыянальных назовах (імёнах), нашай слаўнай дзяржаўнай традыцыі Полацкай (Крывіцкай) Дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага ды адраджэньні беларускай дзяржаўнасьці пад сьцягам БНР. Выкарыстана шмат маловедамага матарыялу, стыль артыкулу зыркі, жывы.

Кніжка вельмі цэнная для беларускага чытача, бо, з аднаго боку, паказвае нарастаньне беларускага адраджэньня, а, з другога, праўдзівы псыхічны стан „апошніх магіканаў".

Цана кнігі — $ 10.00. Выпісваць можна паводля адрысу:
Polish Cultural Foundation,
9 Charleville Road, London, W. 14
або ў Беларускім Выдавецка-Мастацкім Клюбе „Пагоня" ў Таронь-це.

**М. Волаціч**

## УВАГА! СУРОДЗІЧЫ, УВАГА!

Беларускі Выдавецка-Мастацкі Клюб „Пагоня" прапануе Вам да набыцьця: кніжкі эміграцыйнага й БССР-аўскага выданьня; кружэлкі нашага выпуску зь беларускімі танцамі (3), а таксама песьнямі ў выкананьні М. Забэйды-Суміцкага, С. Шульгі, Б. Вержбаловіч, хораў „Жалейка" й студэнцкага зь Лювэну (5). Неўзабаве будзем мець для распаўсюджаньня і кружэлкі слаўнага ансамблю „Песьняры". Маем і насьценныя беларускія гэрбы, залатыя нагрудныя значкі з Пагоняй, залатыя пярсьцёнкі з Пагоняй, інкруставаныя саломкай шкатулкі розных узораў і памераў, і г. д. На запатрабаваньне высылаем нашыя каталёгі. Для сяброў Клюбу „Пагоня" зьніжка.

**Клюб „Пагоня"**

## ДА СУРОДЗІЧАЎ ДОБРАЕ ВОЛІ



Дарагія Суродзічы Беларусы! Колькі тыдняў таму ведамы пісьменьнік Кастусь Акула закончыў пісаць другую частку свае трылёгіі „Гараватка" пад назовам „Закрываўленае Сонца". Аповесьць гэтая вельмі зьмястоўная й вельмі цікавая падзеямі ў Заходняй Беларусі, пачынаючы прыблізна ад 1939 году. Ейны выхад друкам трэба адно вітаць. У сувязі з гэтым мы Вас усіх горача заклікаем дапамагчы нам фінансава выдаць яе ў як мага бліжэйшым часе. Дапамога Вашая можа быць у форме папярэдняй падпіскі, ахвяры або пазыкі на надрукаваньне. Дык зрабема ўсе разам карысную справу! Шчыра дзякуем згары! У гэтай справе просім зварачаецца на адрыс:
CLUB PAHONIA,
524 St. Clarens Ave.,
Toronto, Ont. M6H 3W7

# НА ШЛЯХУ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

**(ПАВОДЛЯ ДАКЛАДУ НА СЬВЯТКАВАНЬНІ 55-х УГОДКАЎ АКТУ 25 САКАВІКА Ў НЬЮ ЁРКУ)**

## 1. НЕ АРХІЎНЫ ДАКУМЭНТ, А ЖЫВАЯ ІДЭЯ

25 сакавіка сёлета Беларусы ў Вольным Сьвеце ўрачыста адзначылі 55-я ўгодкі найважнейшае гістарычнае даты ў працэсе нацыянальнага адраджэньня Беларускага народу, даты абвешчаньня 25 сакавіка 1918 году Радаю Беларускае Народнае Рэспублікі вольнай і незалежнай Беларусі, як сувэрэннае дзяржавы. Ад гэтае даты кажнага наступнага, як і сёлетняга году, на працягу больш за паўстагодзьдзе, угодкі гэтыя адзначаюцца не як прыпамін і ўшанаваньне падзеі, што ў моц палітычных абставінаў зложаная ўжо ў архіў гісторыі.

Наадварот, мы адзначаем угодкі гэтае падзеі як жывую й творчую ідэю, у ўжыцьцёўленьне якой цьвёрда верым. Усякая нашая нацыянальная дзейнасьць і ў кажнай галіне — палітычнай, грамадзкай, культурнай, рэлігійнай выплывае з гэтае ідэі, знаходзіць у ёй маральную моц і крыніцу натхненьня. Навет усе тыя Беларусы ў паняволенай Бацькаўшчыне, што працуюць і змагаюцца за захаваньне нацыянальнага існаваньня народу, але, змушаныя абставінамі, сьвядома ці несьвядома, перакананa ці няшчыра, публічна ахайваць Акт 25 Сакавіка, у запраўднасьці працуюць і змагаюцца для ідэі Сакавіковага Акту.

## 2. ФІКЦЫЯ „САВЕЦКАГА НАРОДУ"

Сёлетнія 55-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі амаль зьбегліся з важным савецкім юбілеем, што мае беспасярэдняе дачыненьне да нашага нацыянальнага юбілею, бо ўсёй сваёй існасьцяй зьяўляецца запярэчаньнем, адмаўленьнем і патаптаньнем незалежніцкае ідэі Беларускага народу. Гэта юбілей 50-х угодкаў ад стварэньня Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў, што быў адзначаны 30 сьнежня 1972 году і пад знакам якога праходзіў больш чымся паўтарыгадовы час ад XXIV зьезду Камуністычнае партыі Савецкага Саюзу ў сакавіку 1971 году.

Генэральны сакратар ЦК КПСС Леанід Брэжнёў у сваім справаздачным дакладзе на XXIV партыйным зьезьдзе асьвегчыў: **„За гады сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне ўзьнікла новая гістарычная агульнасьць людзей — савецкі народ".** Тэза гэтая, прынагодна паўтараная ў Савецкім Саюзе ад даўжэйшага часу ўжо, упяршыню афіцыйна прагучэла на партыйным зьезьдзе, як непарушная догма. Ад ейнага афіцыйнага абвешчаньня догма гэтая паўтараецца ў Савецкім Саюзе пры кажнай адпаведнай нагодзе й без нагоды, як дакананы ўжо факт. Пад лёзунгам гэтае догмы праходзілі й 50-я ўгодкі ад стварэньня Савецкага Саюзу.

Вельмі характэрна, што партыйныя тэарэтыкі й вучоныя ў сваіх артыкулах, што зьяўляліся адзін за адным у друку пасьля згаданага партыйнага зьезду, аднаэгодна цьвердзяць, што сфармаваньне новай гістарычнай супольнасьці — „савецкага народу" і ў вадпаведнасьці з гэтым савецкага патрыятызму й агульнасавецкай інтэрнацыяналістычнай культуры ані ня вылучаюць і навет ні ў чым не ўшчамляюць далейшага існаваньня нацыянальных супольнасьцяў — паасобных савецкіх народаў, іхнага нацыянальнага патрыятызму й нацыянальнай культуры. Аўтары тэарэтычных артыкулаў, сярод якіх цімала й Беларусаў, цьвердзяць і пераконваюць, што абедзьве гэтыя фармацыі — „савецкі народ" і народы, што яго складаюць, савецкая інтэрнацыяналістычная культура й нацыянальныя культуры гэтых народаў, агульнасавецкі патрыятызм і нацыянальныя патрыятызмы — гэта зьявы раўналежныя, гістарычна аднолькава заканамерныя й раўнацэнныя.

Першы сакратар ЦК Камуністычнай партыі Беларусі Пётр Машэраў у сваім артыкуле „Аб некаторых рысах і асаблівасьцях нацыянальных адносін ва ўмовах разьвітага сацыялізму", надрукаваным летась у кастрычніцкім нумары „Коммуниста" й перадрукаваным у сьнежанскім нумары „Полымя", маючы на думцы палітычныя эміграцыі паняволеных народаў, пісаў: **„Нашы ідэйныя праціўнікі, у тым ліку і тыя лютыя нацыяналістычныя адшчапенцы, што дзейнічаюць на імпэрыялістычных задворках, праліваюць нямала кракадзілавых сьлёз у сувязі з тым, што быццам-бы зблізкэньне, узаемапранікаваньне, інтэрнацыяналізацыя культур сацыялістычных нацыяў азначаюць іх „уніфікацыю", „нівэліроўку", вядуць да „зьбядненьня нацыянальнага". Ідэалёгі і прыслужнікі буржуазіі крычаць аб „русыфікацыі", моўнай „асыміляцыі" ў Савецкім Саюзе. Аднак гэты лямант прадыктаваны зусім ня клопатамі аб лёсе сацыялістычных нацыяў, а адзіным імкненьнем — сказіць сутнасьць працэсаў, што адбываюцца ў жыцьці, пасеяць даўно выкарчаванае ў нашай краіне атрутнае насеньне нацыянальнага недавер'я".**

Запярэчваючы ўсім гэтым цьверджаньням гэных „нацыяналістычных адшчапенцаў", Машэраў заяўляе: **„Факты рэальнай савецкай рэчаіснасьці гавораць аб тым, што збліжэньне нацыяў, інтэрнацыяналізацыя іх жыцьця, іх культур ня толькі не азначаюць, што нацыянальнае прыносіцца ў ахвяру інтэрнацыянальнаму, але, наадварот, садзейнічаюць вышэйшаму росквіту нацыянальнага, узбагачаючы яго новым зьместам, зьмяняючы, паглыбляючы саму прыроду нацыянальнага".** І тут, у гэтых апошніх словах камуністычнага гаспадара Беларусі ўвесь цынізм і залганасьць сяньняшняй бальшавіцкай тэзы пра тое, што быццам нацыянальнае ня прыносіцца ў ахвяру інтэрнацыянальнаму, бо ўва ўсёй сяньняшняй савецкай практыцы, на якую паклікаецца і Машэраў, гэнае ўзбагачэньне нацыянальнага „новым зьместам", гэнае паглыбленьне „самой прыроды нацыянальнага" ня што іншае, як падмена нацыянальнага элемэнту, нацыянальнай культуры, навет і нацыянальнай мовы — расейскімі элемэнтамі.

Наагул-жа ўсе гэныя цьверджаньні партыйных тэарэтыкаў пра тое, што канцэпцыя савецкага народу, савецкага патрыятызму й савецкай культуры ні ў чым ня ўшчэмліваюць, а навет спрыяюць раўналежнаму існаваньню й разьвіцьцю паасобных народаў, як нацыянальных супольнасьцяў, іхных нацыянальных патрыятызмаў і іхных нацыянальных культураў, гэта адно тэорыя й прапаганды трык па тое, каб успакоіць нерасейскія народы перад наканаванай ім нацыянальнай сьмерцяй. Сяньняшняя савецкая практыка цалком запярэчвае гэную тэорыю.

Якія-ж паводля камуністычных кіраўнікоў і партыйных тэарэтыкаў галоўныя атрыбуты гэнага „савецкага народу", ягоныя арганічныя асаблівасьці, што давалі-б аснову ўважаць яго за народ? Паводля згаданага дакладу Брэжнёва — гэта **„агульнасьць марксыцка-ленінскай ідэалёгіі, высокія мэты будаўніцтва камунізму".** Паводля словаў пастановы ЦК КПСС „Аб падрыхтоўцы да 50-годзьдзя ўтварэньня СССР", абвешчанай у лютым 1972 году, гэта тое, што савецкі народ **„сфармаваўся на базе грамадзкай уласнасьці на сродкі вытворчасьці, адзінства эканамічнага, сацыяльна-палітычнага і культурнага жыцьця, марксыцка-ленінскай ідэалёгіі, інтарэсаў і камуністычных ідэалаў работніцкае клясы".** Паводля словаў першага сакратара ЦК Камуністычнай партыі Беларусі Пятра Машэрава ў ягоным цытаваным артыкуле — гэта **„агульнасьць мэт і задач камуністычнага будаўніцтва, ператварэньне марксызму-ленінізму ў норму жыцьця і дзейнасьці ўсіх нацыяў і народнасьцяў СССР".** У гэткім-жа сэньсе паўтараюць і разьвіваюць гэныя атрыбуты савецкага народу і шмат якія партыйныя тэарэтыкі й вучоныя, як расейскія, гэтак і беларускія.

Усе гэтыя атрыбуты савецкага народу, а тым самым савецкага патрыятызму й савецкай культуры — гэта або чыстая фікцыя, як гэная марксыцка-ленінская ідэалёгія, якая ёсьць ідэалёгіяй партыі, а не падсавецкіх народаў, або накінутыя народам сілаю дзяржаўнага прымусу, як гэная „грамадзкая ўласнасьць на сродкі вытворчасьці" або „адзінства эканамічнага, сацыяльна-палітычнага і культурнага жыцьця". Даволі, прыкладам, каб зьмяніўся ў Савецкім Саюзе палітычны рэжым, каб на месцы таталітарнай дыктатуры запанаваў дэмакратычны лад з усімі грамадзянскімі й палітычнымі свабодамі, як ад гэных атрыбутаў і самога „савецкага народу" не засталося-б і заваду!

А якія-ж атрыбуты або нацыянальныя прыкметы народаў ці нацыяў, як нацыянальных або этнічных супольнасьцяў? Пра гэта шмат было сказана летась і пазалетась у артыкулах савецкіх вучоных і партыйных тэарэтыкаў, як Расейца Э. Баграмава, гэтак і беларускіх А. Карлюка, А. Журава, В. Бармічава, Я. Карнейчыка й першага сакратара ЦК КПБ П. Машэрава. Паводля згаданых аўтараў, атрыбутамі народаў, як нацыянальных і этнічных супольнасьцяў — гэта нацыянальныя традыцыі, нацыянальная гордасьць, нацыянальная мова, нацыянальная самасьведамасьць, нацыянальны склад душы народу, нацыянальныя асаблівасьці ягонай культуры ды патрыятычная любасьць да ўсяго свайго роднага.

А ўсё гэта зьявы арганічныя. Арганічнасьць, трывалкасьць і нязьнішчальнальць гэтых зьяваў пацьвердзіла ўся гісторыя беларускага народу. Не зважаючы на пэрыяды паняволеньня й палітыку жорсткае дэнацыяналізацыі й асыміляцыі, усе гэтыя свае арганічныя асаблівасьці — і мову, і культуру, і свае нацыянальныя традыцыі, і свой псыхічны склад беларускі народ перахаваў аж да апошняга часу.

## 3. „САВЕЦКІ НАРОД" — НОВАЯ ФОРМА РУСЫФІКАЦЫІ

У супаставе з народамі і нацыяй, як нацыянальнымі й этнічнымі супольнасьцямі, „савецкі народ" ня што іншае, як твораная сілаю дзяржаўнага прымусу новая, найбольш мадэрная і ўдасканаленая форма русыфікацыі. Гэны штучны кангламерат — „савецкі народ" творыцца на расейскай нацыянальнай базе — на базе расейскае гісторыі, расейскае культуры, расейскае мовы, расейскага патрыятызму, расейскага імпэрыялізму й нацыянальнага шавінізму й навет на базе традыцыйнага расейскага мэсыянізму — ў ягонай сяньняшняй форме, як рыхтаваньне сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі. Русыфікацыя нерасейскіх народаў, як моўная, гэтак і культурная, а таксама й псыхалягічная сяньня далёка пакінула ззаду русыфікатарскі ціск навет пагромных гадоў сталінскага тэрору.

Леташнія 50-я ўгодкі СССР праходзілі пад знакам ідэі дружбы народаў Савецкага Саюзу. Але ніколі яшчэ перад гэтым ідэя дружбы народаў гэтак зырка й настырліва не падменьвалася сьцьверджаньнем і ўслаўленьнем выняткавай і вядучай ролі расейскага народу ў фармаваньні й цымэнтаваньні гэтае дружбы, як самым апошнім часам.

## 4. „ДУХ СВАБОДАЛЮБСТВА І НЕПАДЛЕГЛАСЬЦІ ЗЛУ"

Разам з узмацненьнем русыфікацыі ўсьцяж узрастае, як прыродная супраць яе рэакцыя, і нацыянальны супраціў падсавецкіх народаў. Агульны супраціў і незадаваленьне савецкай сыстэмай праяўляецца ня толькі сярод нерасейскіх народаў, але й сярод народу расейскага. Нутраныя працэсы ў Савецкім Саюзе выразна й пасьлядоўна разьвіваюцца ня ў кірунку ўмацаваньня, а на згубу гэтае сыстэмы.

У вабставінах таталітарнай дыктатуры й безагляднага фізычнага й маральнага тэрору вытварыліся ў Савецкім Саюзе тры асноўныя катэгорыі людзей. Адна катэгорыя — гэта ідэйныя камуністыя й фанатыкі, што перакананыя ў правільнасьці партыйнае лініі й шчыра для яе працуюць. Другая катэгорыя — гэта зусім бязыдэйны элемэнт, кар'ерыстыя, бяспрынцыповыя прыстасаванцы й сэрвілістыя, што падтрымліваюць звычайна кажны рэжым, за якім сіла. Для дыктатуры гэта таксама надзейны элемэнт у мамэнт ейнае моцы, але зусім ненадзейны ў выпадку ейнае слабасьці. Трэйцяя катэгорыя — гэта ідэйна супраціўны да дыктатуры элемэнт, які ў вабставінах тэрору ня можа адкрыта й беспасярэдня выявіць сваёй варожасьці да сыстэмы, затое, выяўляе гэтую варожасьць самымі рознымі спосабамі пасярэдня.

Калі глыбака прасачыць нутраныя працэсы ў Савецкім Саюзе на працягу ўсіх пэрыядаў ягонага існаваньня, дык пры ўсёй цяжкасьці аналізу гэтых працэсаў, усё-ж заўважаецца бясспрэчная зьява: гэная першая катэгорыя людзей — ідэйных і фанатычных камуністых, як паводля партыйных білетаў, гэтак і бязь іх, паступова, але няўхільна зьмяншчаецца на карысьць павялічэньня ідэйных праціўнікаў камунізму ў ягонай савецкай вэрсыі.

І гэта цалком заканамерна. На працягу звыш паўстагодзьдзя гісторыі падсавецкія народы, апрача заўсёднага свайго гора, перажылі вялікія й вельмі балючыя выпрабаваньні: прымусовую калектывізацыю зь ейным раскулачваньнем, масавы фізычны тэрор у гадох яжоўшчыны, бяспрыкладнае ў гісторыі пакутніцтва ў справакаванай у вялікай ступені самым-жа Савецкім Саюзам мінулай вайне, што прынесла калясальныя страты й зьнішчэньні асабліва беларускаму народу. Дадзеныя савецкай статыстыкі, што вайна, апрача матарыяльнага разбурэньня краю, забрала ад беларускага народу кажнага чацьвертага чалавека, ані ня перабольшаныя. Усе гэтыя народныя пакуты, спрычыненыя і зь віны азьвярэлага гітлерызму, і таксама зь віны годнага ягонага пабраціма — злачыннай сталіншчыны, не маглі не адбіцца на народнай псыхіцы. Выдатны наш пісьменьнік Васіль Быкаў у сваёй аповесьці 1965 году „Мёртвым не баліць", войстра заатакаванай партыйнымі й вайсковымі коламі, не дарма пісаў: **„Дух свабодалюбства і непадлегласьці злу здабыў сабе ў тэй барацьбе магутныя крылы. Я веру, яны не апусьцяцца!"**

Асуджэньне Сталіна й сталінскіх злачынстваў самой Камуністычнай партыяй на ейных XX і XXII зьездах і працэс г. зв. дэсталінізацыі моцна абнадзеілі ўсе волялюбныя сілы ў Савецкім Саюзе й зрадзілі, праўда, хісткую яшчэ, веру, што а ну-ж кола гісторыі павернецца ў іншы бок. Хутка, аднак, аказалася, што ўся камэдыя з дэсталінізацыяй была няшчырай і бяспэрспэктыўнай, а конча патрэбнай для самой-жа партыі, каб у мамэнт ейнае слабасьці й агульнага незадаваленьня зваліць усю сваю віну за ўсе народныя няшчасьці на аднаго няжывога ўжо Сталіна. Ужо ў самым пачатку другой палавіны 60-х гадоў, асабліва з прыходам да ўлады Брэжнёва, калі нутраная сытуацыя больш-менш устабілізавалася, паступова, але пасьлядоўна партыя пачала адваротную лінію — рэсталінізацыі. Пад знакам рэсталінізацыі праходзілі й 50-я ўгодкі СССР.

Гэты зварот да старога палітычнага курсу канчаткова пахіснуў надзеі, што ад самой партыі можа прыйсьці збаўленьне. Лепшая частка падсавецкіх грамадзтваў пачала прыходзіць да перакананьня, што трэба пакладацца адно на свае собскія сілы. На гэтай ідэйнай базе й зрадзіўся сяньня агульна ведамы фэрмэнт сярод думаючае часткі савецкіх людзей, узмоцнілася ня толькі пасыўнае нездавальненьне савецкай сыстэмай і пасыўны супраціў у дачыненьні да яе, але зьяўляюцца штораз часьцейшыя спробы й супраціву актыўнага ў магчымых у савецкіх абставінах формах.

**(Заканчэньне ў наступным нумары)**

**Ст. Станкевіч**

# ЧАРОДНАЯ ЗБОРКА "ХАЎРУСУ"

У дзень 25 сакавіка пасьля ўрачыстай Літургіі, адслужанай Архімандрытам Львом Гарошкам, адбылася чародная гадавая зборка Беларускага „Хаўрусу" ў Францыі. Пасьля справаздачаў зь дзейнасьці Управы й Кантрольнай Рады была перавыбраная Ўправа й Кантрольная Рада ў папярэднім складзе ды былі разгледжаныя некаторыя бягучыя пытаньні.

Між іншым абмяркоўвалася справа набыцьця дому для эмэрытаваных Беларусаў, запрапанаваная сябрам Аўгенам Трусавам з Крэзот. Пастаноўлена зрабіць пошукі месца й прынцыпу гаспадараньня. Бальшыня думала, што гэта павінен быць аб'ект прыбытковы ў турыстычным месцы, бо толькі гэткім спосабам маглі-б быць прыцягнутыя асабістыя капіталы сярод Беларусаў. Канчатковая пастанова яшчэ не запала.

# З КНІГІ: "ВЯЧОРКІ ДЗЕДА САМУЙЛЫ"

## ПРА МАІХ ГЕРОЯЎ

На вячоркі яны зьбіраліся звычайна ўпяцёх. Тэлевізар пабліскваў блакітным экранам. Яны-ж пілі каву, вялі гутарку.

Першым звычайна прыходзіў Настаўнік. Настаўнік быў яшчэ ня вельмі стары, але ў веку, што рукой да пэньсіі дастаць. Твар у яго, як ува ўсіх настаўнікаў, добры ды заклапочаны. Галава пабеленая сівізнай. Апрануты ён у цёмнасіні бастонавы касьцюм і заўёды пры гальштуку...

Потым, пакашляўшы ў калідорчыку, прыбываў Стары Партыец. Партыец ведама які — член КПСС ад тае пары, калі яна нат яшчэ ня йснавала, ато мо й ад матчынага чэрава. Вельмі ён калісьці паважаў „подзьвіг" Паўліка Марозава, таму, мабыць, дзе мог і дзе ня мог, усё паўтараў яго. Колькі гэтых „подзьвігаў" на ягоным жыцьці, толькі сумленьне ягонае ведае, калі й яно зь ліку ня зьбілася. Зусім ужо стары цяпер Стары Партыец, ледзьве ногі перасоўвае, але ўсё яшчэ імкнецца да „подзьвігаў", толькі вось кашаль не дае. Дык людзі, што побач жывуць, неяк паспакайнелі, а мо й пасьмялелі, бо як ні дзіва, а калі-ні-калі й жыцьцём радуюцца.

Інтылігент у Акулярах зьяўляўся ў дзьвярох худы як тычка. Здаецца, каб яшчэ чатырох такіх-жа паставіць поплеч, дык прайшлі-б празь дзьверы нат не зачапіўшы адзін аднаго. А ходзіць ён неяк цудоўна, усё плячыма сьпінжак папраўляе, быццам нехта на шыі ягонай сядзіць. А думкі ягоныя недзе ў трохвымернай прасторы лунаюць. Папытайцеся ў яго, дзе кілбасы польскай дастаць, дык ён, глядзеце, каб вам пытаньнем на пытаньне ня ткнуў:

— А што гэта кілбаса значыць?

Адным словам, чалавек вельмі заняты, з пратонамі ды нэўтронамі запанібрата, а ад жыцьця адарваны. Ёсьць у яго імя ды імя па бацьку, але суседзі, апрача як Інтылігент у Акулярах, яго ня клічуць.

Ёсьць за ім і грэх адзін. Вельмі ўжо любіць казаць: „Прабачце, калі ласка". Вінаваты — ня вінаваты, а ўсё: „прабчце, калі ласка"... Рэжа гэта вушы суседзям. Мо гэта й прычына, што Інтылігентам клічуць, а чаму ў Акулярах — бо ён і запраўды акуляры носіць. Дзіва, калі-б не насіў, што-б тады быў за інтылігент?...

Хочаце самі ведаць, а хто-ж такі боцман Уладзімер Ільіч? Ён таксама на каву прыходзіць. Даўгое й значнае жыцьцё пражыў боцман Уладзімер Ільіч. Праўда, цяпер ён у камунальнай кватэры месьціцца, але як быў за начальніка марскога клюбу ў Менску (ведаеце, такі „партовы" сталічны горад на Беларусі?), дык асабісты апартамэнт меў, ды ня дзе-небудзь, а на праспэкце. Увесь век у рэвалюцыі гэты Уладзімер Ільіч пражыў. Родам зь Сібіру, яшчэ простым мараком ён на крэйсэры „Пацёмкін" бунтаваў. Доўга потым у падпольлі за мяжой хаваўся. Але нюхам зьветрыўшы, што ў Расеі смаленым запахла, пацягнуў носам паветра з боку Пецярбургу дый падаўся дадому. Тут, на шчасьце ці не, але боцман з „Аўроры" на адпачынак ехаў, дык яго на сваё месца на паўстаўкі ўладкаваў. На поўную баяўся, бо вернешся з адпачынку, а месца занята. Ды чаго баяўся той запраўдны, тое-ткі й сталася, надоўга новы боцман Уладзімер Ільіч ягонае месца заняў. Адным вечарам крэсіва дастаў боцман Ул. Ільіч зь кішані ды пачаў іскру сячы. Сёк, сёк і высек. Кнот задымеў. Падаткнуў яго зьнянацку да галоўнае арудзіі „Аўроры". А яна як гакне! І трэба-ж якраз 25 кастрычніка. Жахнуўся тады боцман Уладзімер Ільіч, але потым усьцешыўся, бо арудзія пустым-халастым была зараджаная. І пайшло тады пустымі-халастымі страляць, так у звычку ўвайшло, што ўсе ўжо навет ня памятаюць, хто там першы іскру сёк. Але халастымі па інэрцыі ўсё страляюць. Сельскую гаспадарку трэба падняць: халастымі ба-бах. Дабрабыт людзей трэба падвысіць: зноў халастымі ба-бах. Спакайней так — нікога не падстрэліш, ніхто ўзьвінаваціць ня ўздужае, а што людзі з голаду ці ад клопату вялікага калі-нікалі раней пары Богу душачкі аддаюць, дык тут вінаватых няма, паспрабуй, давядзі.

Вось ужо боцман Уладзімер Ільіч даўно на запалкі перайшоў, а людзі ўсё пад ягонай іскрай жывуць.

# ГЭТАК НАС "ВЫВОДЗЯЦЬ У ЛЮДЗІ"

Бадайшто ўсе аповесьці Васіля Быкава былі перакладзеныя на расейскую мову й надрукаваныя ў маскоўскім часапісе „Новый мир", а некаторыя зь іх, як „Трэцяя ракета", „Альпійская баляда" й „Сотнікаў" выйшлі й кніжным выданьнем у маскоўскім выдавецтве „Молодая гвардия" ў 1972 годзе. Дзьве першыя былі перакладзеныя на расейскую мову Расейцам М. Гарбачовам, а трэйцяя — самым аўтарам. Хоць і былі таксама надрукаваныя ў часапісе „Новый мир" у перакладзе на расейскую мову, але кніжным выданьнем ня выйшлі гэткія аповесьці Васіля Быкава, як „Мёртвым не баліць", „Праклятая вышыня" й „Круглянскі мост", што былі войстра заатакаваныя партыйнай і вайсковай крытыкай.

Тыя з аповесьцяў Васіля Быкава, што выйшлі ў ангельскім перакладзе, былі перакладзеныя не з арыгінальнага беларускага тэксту, але із згаданых расейскіх перакладаў. Гэтак аповесьць „Трэйцяя ракета" ў перакладзе на ангельскую мову Робэрта Дагліша была выдадзеная ў 1964 годзе ў Маскве ў выдавецтве замежных моваў. Таксама аповесьць „Альпійская баляда" ў перакладзе на ангельскую мову Георга Ганна выйшла ў 1966 годзе ў Маскве ў выдавецтве „Прагрэс". У ангельскім выданьні „Трэцяй ракеты" наагул ня было зазначана, зь якой мовы быў зроблены пераклад, а ў ангельскім выданьні „Альпійскай баляды" было сказана на загалоўнай старонцы, што пераклад зроблены з расейскай мовы.

На пачатку леташняга году выйшла ў ангельскім перакладзе аповесьць Васіля Быкава „Сотнікаў" пад загалоўкам "The Ordeal" („Цяжкае выпрабаваньне") і была яна выдадзеная ўжо не ў Савецкім Саюзе, а ў Ангельшчыне ў выдавецтве „The Bodley Head" і адначасна ў Задзіночаных Штатах у выдавецтве "Dutton". Пераклад быў зроблены з расейскага тэксту, што быў надрукаваны ў маскоўскім часапісе „Новый мир" у 1970 годзе. Ува ўсіх выданьнях трох згаданых аповесьцяў у перакладзе на ангельскую мову няма нат і ўпаміну пра нацыянальнасьць Васіля Быкава, і затым у заходняга чытача ствараецца ўражаньне, што гэта расейскі пісьменьнік. Запытаныя пра гэта ангельскія выдаўцы й перакладчык аповесьці „Сотнікаў" адказалі, што яны былі ў найлепшай веры, што мелі дачыненьне з расейскім пісьменьнікам.

Але й гэта яшчэ ня ўсё. Абодвы расейскія пераклады М. Гарбачова аповесьцяў Васіля Быкава „Трэцяя ракета" і „Альпійская баляда", зь якіх былі зробленыя й іхныя пераклады на ангельскую мову, у шмат якіх выпадках розьняцца ад іхных беларускіх арыгіналаў і тым самым зьінячваюць беларускі тэкст. Гэтыя розьніцы й зьіначаньні пераважна або заціраюць беларускі нацыянальны характар твораў Васіля Быкава, або, наадварот, падчыркваюць іхны расейскі нацыянальны характар. У якасьці прыкладаў вазьмем найбольш зыркія зь іх з абедзьвюх аповесьцяў.

Гэтак галоўны герой аповесьці „Трэйцяя ракета" Беларус Лазьняк, ад імя якога вядзецца ў першай асобе апавяданьне й праз вусны якога гаворыць сам аўтар, седзячы ў акопе на перадавой пазыцыі фронту ў Румыніі, прыгадвае свой побыт год таму ў партызанскім атрадзе „Мсьцівец" на Беларусі й сваіх беларускіх сяброў — мужных хлопцаў, што адважна змагаліся супраць акупанта. Пад уплывам гэтага прыпаміну Лазьняк пра сябе самога разважае гэтак: „І ў гэтым невялічкім разьліку я заўсёды нашу ў сабе стрыманы маўклівы гонар, што я Беларус. Я ня крыўдую, калі, сказаўшы ня так якое рускае слова, чую ад Задарожнага абразьлівае „тrапка" — хай сабе я не скажу гэтак прыгожа, як ён, але ёсьць у мяне свая вартасьць, і ён, як-бы ні хацеў, ня можа абразіць мяне". Заміж гэтага, у расейскім перакладзе знаходзім вось што: „И я всегда нашу в себе молчаливую гордость за них, скромных моих земляков, и знаю, что я в большом неоплатном долгу перед моей землей и моим многострадальным народом". Дакладна гэтак-жа словы гэтыя гучаць і ў ангельскім перакладзе Робэрта Дагліша, зробленым з расейскага перакладу М. Гарбачова. Значыць, гэныя словы Лазьняка ў беларускім арыгінале, у якіх ён выказвае сваю гордасьць за тое, што ён Беларус, ды зазначае, што яго ані чуць не абражаюць кпіны Расейца Задарожнага, што ў ягонай расейскай мове чуваць беларускае вымаўленьне, у расейскім і сьледам за ім ангельскім перакладах шчэзьлі

У беларускім арыгінале аповесьці „Альпійская баляда", што выйшла ў 1964 годзе ў Менску ў выдавецтве „Беларусь" і была перавыдадзеная ў тым-жа выдавецтве ў 1969 годзе, у размове Італьянкі Джуліі й Беларуса Івана Цярэшкі ёсьць гэткі дыялёг:

„— О, Армата Россо побеждаль! — падхапіла Джулія.

— Ну вось. **Сілу якую накапілі.** А пасьля вайны, калі гэтую сілу на гаспадарку пусьціць, ого!..."

Затое ў расейскім перакладзе М. Гарбачова, выдадзеным у 1972 годзе ў маскоўскім выдавецтве „Молодая гвардия", гэтая мясьціна гучыць гэтак:

„— О, Армата Россо побеждать! — восторженно согласилась Джулия.

— Ну вот. Видишь, **силища какая — Россия!** А после войны, если эту силу на хозяйство пустить, ого!..."

Значыцца, словы арыгіналу „Сілу якую накапілі" заменены словамі: „силища какая — Россия!"

Зь іншых характэрных зьіначаньняў вельмі цікавае наступнае. У беларускім арыгінале аповесьці „Трэцяя ракета" ёсьць ува ўсіх ейных выданьнях гэткая мясьціна: „У палоне чалавек губляе ўсё, што поначапляла жыцьцё: кубікі, шпалы, ордэны, дыплёмы, білеты. Застаецца адно толькі пры ім — яго душа. **Як у Ісуса.** Я нагледзеўся рознага. За трыццаць год жыцьця не зразумеў таго, што за адзін год палону. Я ўсё думаў: усё-ж яны, Немцы, не якія азіяты, яны далі чалавецтву Баха, Гётэ, Шылера, Энгельса. Аказалася, увесь іхны сэнс — Гітлер". У ангельскім перакладзе аповесьці Робэрта Далгіша ў маскоўскім Выдавецтве замежных моваў 1964 году словы „Как у Исуса" цалком выкінутыя, затое ў пералічэньні нямецкіх паэтаў і філёзафаў дабаўленае прозьвішча Маркса, якога няма ў беларускім арыгінале.

Апошнія аповесьці Васіля Быкава „Праклятая вышыня", „Круглянскі мост" і „Сотнікаў", надрукаваныя ў расейскім перакладзе ў часапісе „Новый мир", відаць, каб усьцерагчыся падобных зьіначаньняў, пераклаў ужо сам аўтар.

Ведамы беларускі перакладнік Язэп Семяжон у сваім артыкуле ў „Полымі" ў 1969 годзе „А як выйшла ў людзі" пісаў, што Беларусы, дзякуючы савецкай уладзе, кажучы ягонымі словамі, „панесьлі ўсяму чалавецтву зыркі факел сваёй самабытнай культуры", што мастацкія творы беларускага народу „чуе, слухае, чытае... амаль уся зямля". А паэта Максім Лужанін на ленінскі юбілей у 1970 годзе пісаў у часапісе „Неман": „Беларуская літаратура свабодна гаворыць з народамі на самых далёкіх кантынэнтах".

Тымчасам, як пацьвярджаюць прыклады зь перакладамі аповесьцяў Васіля Быкава на расейскую мову, а зь яе — на ангельскую, далёка ня ўсё „чуе, слухае, чытае", ня толькі замежны, але навет і расейскі чытач ды чытачы іншых савецкіх народаў, якім даступныя творы беларускай літаратуры ў расейскім перакладзе. А калі ходзіць пра замежнага чытача, дык гэты апошні навет ня можа зь перакладу даведацца, што дадзены твор належыць беларускаму аўтару й беларускай літаратуры.

Гэтак у сваім шавіністычна-русыфікатарскім шале Масква не абмінула навет твораў аднаго з найвыдатнейшых сучасных беларускіх пісьменьнікаў Васіля Быкава. Выпускаючы некаторыя ягоныя аповесьці ў расейскім і ангельскім перакладзе, яна не пасаромілася зрабіць усё магчымае, хоць у цывілізаваным сьвеце нідзе не практыкаванае, каб аповесьці ўспрыймаліся чужым чытачом, як творы расейскае літаратуры, а іхны аўтар Васіль Быкаў, як расейскі пісьменьнік.

Сорамна й подла!

**Раман Шаруціч**

## *ПСАЛЬМ 136*

*Паўзьберагу рэк ў Бабілёне*
*Пасеўшы мы сьлёзы лілі:*
*О, любы, далёкі Сыёне,*
*Ці ўбачым Цябе мы калі?!*

*Там вербы гальлё пахілілі —*
*Мы гралы ўчапілі на іх,*
*Як тыя, што нас паланілі,*
*З нас песьняў пыталі сьвятых.*

*Сьпяваць прымушалі ў няволі:*
*„Гэй, нетча, нам песьню сьпяй!"*
*Не, песьні Сыёнскай ніколі*
*Ў варожай ня пецьмем зямлі!*

*Ты ў сэрцы ўсьцяж Ерузаліме,*
*На Твой як забыцца ўспамін,*
*Хай рукі ляпей мне адыйме*
*Ды мову займе назусім!*

*Адпомсьць, Спадару, за ліхое,*
*Эдэмцам за зьдзекі вярні:*
*„Раўнуй" — бо гукалі — „зь зямлёю",*
*Як верх над Сыёнам ўзялі.*

*О, люты цару, Бабілёне,*
*Час помсты настане яшчэ;*
*Шчасьліў, хто твой вывадак пойме*
*Й на зрыньні тваім патаўчэ!*

*Вольны пераклад Я. Баяра*

### КІРЫЛА МАЗУРАЎ НА МЕСЦА КАСЫГІНА?

Гэткая замена зусім ня вылучаная, паводля праф. Калюмбійскага ўнівэрсытэту З. Бжэзінскага, аднаго зь міжнародна ведамых камэнтатараў сучасных падзеяў у Савецкім Саюзе. Праф. Бжэзінскі надрукаваў у часапісе „Нью Лідэр" (Нью Ёрк, 19 сакавіка 1973) артыкул пад заг. „Хто будзе наступнікам Брэжнёва?" Аўтар падае колькі прозьвішчаў Расейцаў, што маюць найбольш шансаў на гэта. На месца прэм'ера Касыгіна, піша Бжэзінскі, наймацнейшым кандыдатам выглядае Кірыла Мазураў, Беларус, колішні першы сакратар ЦК Камуністычнай партыі Беларусі.

І ня ведаюць, што-ж ім заўтра рабіць: ці арудзію перазаражаць, ці крэсівам новыя іскры сячы. А боцман Уладзімер Ільіч, вочы як кот жмурыць, ды ў клінок-бародку сьмяшок хавае. Задаў работы на сьвет увесь сваім чырканьнем.

Тут, мабыць, чытач папытаецца, а чаму яго Ўладзімерам Ільічом клічуць. Дазвольце, я ў вас таксама папытаю:

— А чаму вы Аляксэй Мікалаевіч, або Леанід Ільіч?

Гэта бацькі толькі нашыя ведаюць, што ім надум прыходзіць, калі імёны яны падбіраюць. Бачу, яшчэ ў вас сьвярбіць на языку адно пытаньне:

— Як-жа гэта сібірскі марак, боцман Уладзімер Ільіч, дый у Менску апынуўся? Выбачайце, тут ужо на бацькоў не спашлешся, дый сам ён калісьці мне расказваў.

Калі Вялікая Айчынная вайна пачалася, дык папаўся наш боцман Уладзімер Ільіч у палон да Немцаў. Цяжка яму там спачатку прыйшлося. Сам ён крыху картавіць, дык яго ледзьве й ня прыстрэлілі. А ён і прадзедаў з волжскіх Немцаў прыпомніў, і ад страху нат панямецку загергетаў. Бачыце, з малаком маці мабыць усмактаўшы, дык у ліхую гадзіну прыдалося. Таксяк выкараскаўся боцман зь нямецкага лягеру, дый да беларускіх партызанаў у лес падаўся. Партызаны-ж, яны добра ведалі партызанскую тактыку, дык як толькі вайна скончылася, яны яе, тактыку гэтую, на Менск прымянілі. Усе цёплыя месцы абселі. Ну, хто-ж ад цяпла на Сібір паедзе? Дык і боцман Уладзімер Ільіч ня тое, што сам, але ўсіх родзічаў зь Сібіру выпісаў. А сам дырэктарам морскага клюбу зрабіўся. Бачыце, сярод Менску клюб морскі адчыніў, чым не даходная прафэсія? Мора няма, а клюб ёсьць. Спакойна, ні хваляў, ні штормаў. Толькі вось ліхенька, ранавата на пэнсію прашторылі. Кажуць, аднаго сапраўднага адмірала ў вадстаўку ніяк сьпісаць не маглі, упіраўся аберуч, дык боцману Ўладзімеру Ільічу саступіць давялося...

Ну, а пра Дзеда Самуйлу? Магу сказаць толькі, што чалавек ён практыкі вялікае, толькі вы рот разьзявіце пра здарэньне якое-небудзь расказаць, а Дзед Самуйла вам тут-жа прыклад з жыцьця свайго прыпомніць. Так што лепей пра яго даведаемся з самых вуснаў ягоных у наступным нашым фэльетоне...

## I. ЛЕНІНСКАЕ БЕРВЯНО

Сяньня Настаўнік прыйшоў апошні. Ён стомлена асеў у крэсла і абвёў усіх вачыма. Па правай руцэ ад яго сядзеў Дзед Самуйла із сваёй неразлучнай піпкай. Дым клубамі ўздымаўся пад столь і вісеў там густым туманом. Стары Партыец, што паважаў „подзьвіг" Паўліка Марозава і маладзейшым часта прыкладаў яго да жыцьця, сядзеў насупраць і кашляў. Рукі ў яго, як вёслы, граблі паветра, адганяючы дым дзедавае піпкі. Збоку й крыху паводдаль сядзеў на ўслончыку Інтылігент у Акулярах. Сяньня была ягоная чарга, і ён наліваў каву. Боцман Уладзімер Ільліч сядзеў пры стале ў сваёй улюблёнай позе, падпёршы кулаком шчаку й прыжмурыўшы адно вока. Стваралася ўражаньне, што ён уважліва слухае. Але ўсе добра ведалі — дрэмле, хітрун вусаты, барадку на бок адтапырыўшы.

— Прытаміўся я крыху сяньня, — як-бы апраўдваючыся, пачаў Настаўнік. — Увесь дзень з вучнямі на ленінскім сыботніку працаваў. Дык гэтыя сучасныя абібокі больш па двары за мячом насіліся, чымся працавалі. Аніякай павагі да сьвята. Вось раней, памятаю, у сельскай школе працаваў, дык вось дзе сыботнікі былі!... Яшчэ за месяц дырэктывы з райцэнтру прысылалі: колькі гутарак з вучнямі правесьці, як перад бацькамі выступіць, якія лёзунгі паразьвешваць. А ў сыботу прыходзілі як на сьвята. Сам дырэктар прамовы меў. Запальваў усіх, натхняў. Цяпер зусім ня тое, амаль што мы адны, настаўнікі, і працавалі. Ды з вучняў, хто менш кемлівы на занятках, дык прыплякліся.

А калісьці! У вёсцы я працаваў недалёка ад Менску. Сабраліся мы неяк на адзін зь ленінскіх сыботнікаў, панадворак школьны прыбралі, вуліцу насупраць. Раптам бачу — цягнуць мае пяцікляснікі бервяно нейкае, ды не із школьнага двара, а ў школу дый пад самы пад ганак. Жарты жартуюць, думаю, і сабою праход перакрываю, а яны, вучні гэта мае, нат абразіліся. Што, кажуць, не пазнаяцё? Ленін такое-ж на першым сыботніку нёс. Ды адзін зь іх зрываецца ды ў чырвоны куток, а выйшаўшы адтуль каляровай паперкай над галавою махае. Глядзімо мы на гэты малюнак, а на ім Ленін з крамлёўскімі служачымі бервяно нясе. Прыглядаюся ўважлівей — і бачу — сапраўды падобнае. Сучкі пералічылі, перамералі, як яны на бервяне раськіданыя, бачым — яно, роднае!

Ад неспадзеванкі аж млосна стала, а вучні ўжо ў чырвоны куток кіруюць. Музэйная рэдкасьць, кажуць. Грэх выкідаць.

Добра тут дырэктар школы знайшоўся. Хуценька мітынг склікаў, дый патрыятычна гэтак гаворыць:

— Бервяно гэта, таварышы, кавалачак нашае гісторыі, гісторыі ўсяе нашае савецкае ўлады. Сорам, кажа, трымаць гэты кавалачак гісторыі ў маленькай вясковай школе. У сталіцу лепш пашлём. А сабе можа яшчэ прыдбаем... Трэба, кажа, каб увесь народ, уся краіна маглі да бервяна прыйсьці, мы яго, кажа, у самы вялікі музэй.

А тут, як на шчасьце, грузавік калгасны з прычэпам едзе, у горад накіроўваецца. Выскачыў дырэктар школы нашае ды на школьны двор грузавік завярнуў. Усьперлі мы бервяно гэтае на прычэп ды паехала яно з вачэй нашых. Дзеці-ж зь месяц забыцца на яго не маглі, усё прыпаміналі, а хто-ж першы згледзеў і распазнаў яго.

Настаўнік пацягнуў крыху кавы й змоўк.

— Бач, які ўздым рэвалюцыйны быў, — ня ўтрымаўся Стары Партыец, але йзноў закашляўся, нездаволена махнуўшы рукою ў бок Дзеда Самуйлы. Боцман Уладзімер Ільліч перамяніў руку пад шчакой і другое вока прыплюшчыў. Бародка яго цяпер у другі бок тырчэла. Ізноў стварылася ўражаньне, што ён уважліва слухае.

Дзед Самуйла папыхкаў піпкай, як успомніўшы нешта, і пачаў:

— Вось Настаўнік баіў, што калісьці ў беларускай вёсачцы, што пад Менскам, бервяно Леніна ім пашэнціла знайцьці. А я дык на ўсё жыцьцё адзін ленінскі сыботнік запамятаў. Пытаецеся, як гэта было? Жыў я тады на вёсцы. Сын мой вучыўся й яшчэ не працаваў тут у Менску. Як-раз на Слуцкую шашу канец нашае вёсачкі выглядаў. Адным годам сабраліся мы ўсёй вёскайісьці на ленінскі сыботнік вуліцу прыбіраць. Ну і я з усімі зьбіраўся. Але як на тое ліха ў жываце ў мяне зраньня закалола. Глянуў я праз вакно, а ўсе каменьні зьбіраюць, трэскі граблямі грабуць. Далей гляджу: усе да млына рынулі і капаюцца нешта там. Аж тарктар аказваецца ў гразі знайшлі, што колькі год таму прапаў быў. Занятыя ўсе, і пра мяне мабыць забыліся.

А жывот мой адыйшоў, чую, палепшала. Дык ухапіўся я за кошык зь яйкамі, што месяц зьбіраў, ды за бідоны з малаком, дый гародамі й дварамі да шашы падаўся. Шкода мне стала людзей гарадзкіх, вось вернуцца з сыботніку, пойдуць на базар, каб купіць зьесьці чаго, а там пуста — калгасьнікі ўсе на ленінскім сыботніку. Не, не зважаючы на жывот, трэба мне ў горад, хоць рэж, а трэба!

Выйшаў я на шашу ды стрэчным машынам руку ўзьнімаю, галасую.

Доўга ці коратка стаяў, аж бачу — грузавік, што ў кірунку да сталіцы едзе, спыняецца й да мяне рулюе. Кузаў у яго загружаны й брэзэнтам зацягнены, у кабіне нейкая баба побач з шафёрам расьселася. Дык шафёр у прычэп мне прапаноўвае. Ну, што-ж, у прычэп, дык у прычэп, абы ехаць. Нездарма-ж у народзе кажуць: лепш дрэнна ехаць, чымся хораша йсьці.

Палез я ў прычэп. Бідоны на падлогу паставіў, кошык праз борт перакінуў. Думаю, сам на падлозе пасяджу. Аж глянь — бервяно ляжыць. Пашэньціла, думаю. Сеў я на бервяно, кошык зь яйкамі паміж ног паставіў, бідоны рукамі прытрымваю. А машына ймчыць, асфальт пад калёсы падмінае.

Сонейка веснавое прыгрэла, вецер сьвежы твар абдзьмухвае. Еду я й прыродай любуюся. А вы-ж самі бачылі, якія лясы ў нас уздоўж Слуцкай шашы растуць. А тут яны яшчэ ледзь пасьля зімовага сну прачнуліся. Там-сям яшчэ белыя плямы сьнегу ляжаць. Хараство, дый годзе.

Раптам чую машыну неяк у бок павяло. Гляджу — аж ляціць яна з шашы ды на пасялковую дарогу. Наперадзе асфальту раманцуюць, дык знак аб'езду стаіць. Шафёр-жа, ёлапень гэткі, заміж таго, каб прытармазіць — на поўным хаду ў бок зрулі. Ну й пачалася-ж тут катавасія. Бідоны адразу-ж вырваліся ў мяне з рук ды паскакалі па прычэпе. Я-ж за яйкі хапіўся, што паміж ног у кошыку ляжалі. А бервяно неяк заскакала ўсё пады мной. Дзе тут да яёк, за сукі ўчапіўся я, ды як на неаб'ежджаным кані па прычэпе гойсаю. Кошык зь яйкамі ціхенька ў куток пасунуўся. Крычу я шафёру, каб машыну спыніў, а ён, трасца яго матары, і ня чуе. Гоніць, як шалёны. Я-ж па калдобінах быццам уласным задам падскокваю. Бідоны, як жабы, паўзь мяне скачуць, а потым адзін па адным гэтак перакульваюцца й кузаў беляць малаком маім тыднёвага збору.

Бервяно-ж быццам чакала на гэта. Сьлізганула яно спад мяне ды ў другі бок прычэпу пакацілася. Я-ж па малацэ, як па лёдзе, сьлізгаю ды адным вокам кошыка сачу, а другое зь бервяна ня спушчаю. А яно як разьюшаны вяпрук па кузаве гойсае, глядзі, каб сукамі не зачапіла.

Ды на тую бяду пыл слаўпом падняўся, нічога зусім ня відаць. Недзе бідоны грымацяць пустымі бакамі, а мяне да кошыка прыбіла. Цэлы яшчэ! Схапіў я яго і да сябе прыціснуў. Тут, гляджу, і бервяно нас знайшло. Ашчэрылася сукамі, зараза, і адным канцом нады мною усторкла. Закрыў я твар рукамі ды чакаю свае апошняе часіны. Бервяно-ж як храсьне, яйкі ўшчэнт, адно жоўтае месіва па падлозе й штанох цячэ. Ад кошыка-ж адны трэсачкі. Мяне не кранула, у другі канец прычэпу ізноў паскакала...

Тут неўзабаве й аб'езд скончыўся. Выскачыла машына на асфальт ды плаўна, плаўна гэтак пабегла. Пыл улёгся. Гляджу — бервяно зноў на тым самым месцы ляжыць. І сонейка зноў зьзяе па веснавому гэтак, дый ветрык рахманы ў твар дзьмухае...

Вось як бывае, — прыкра ухмыльнуўся Дзед Самуйла. — На ўсё жыцьцё я запамятаў тэй ленінскі сыботнік, калі я ў Менск сабраўся і цэлы месяц яйкі адкладваў...

Ён засмактаў піпку, але перакананаўшыся, што яна не гарыць, выграс ды пачаў набіваць новым тытунём. Настаўнік і Інтылігент у Акулярах спачувальнаківалі Дзеду Самуйлу. Стары-ж Партыец асуджальна глядзеў на яго. Адзін толькі боцман Уладзімер Ільіч, як ні ў чым ня бывала, зьмяніў позу й быццам зноў слухаць наставіўся.

**Алесь Вожык**

# “У СЬВЯТЛЕ ГІСТАРЫЧНЫХ ФАКТАЎ”

У 1972 годзе ў выдавецтве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Мюнхэне выйшла манаграфія беларускага замежнага гісторыка Паўла Урбана пад загалоўкам ‚У сьвятле гістарычных фактаў” (У сувязі з брашурай Л. С. Абэцэдарскага).” Маецца на ўвеце невялікая фарматам кніжыца беларускага савецкага гісторыка праф. Лаўрэна Абэцэдарскага загалоўленая „У сьвятле неабвержных фактаў”. Кніжыца тая выйшла ў 1969 годзе ў Менску ў сэрыі „Бібліятэчка газэты ‚Голас Радзімы’ ”. Яе пашыралі між Беларусаў за межамі Савецкага Саюзу, а таксама рэкамэндавалі на Беларусі, як дапаможнік для студэнтаў у вывучэньні беларускае мінуўшчыны. Разгляду працы праф. Абэцэдарскага „У сьвятле **неабвержных** фактаў” і прысьвечаная Урбанова манаграфія „У сьвятле **гістарычных** фактаў”.

Аўтар манаграфіі Павал Урбан скончыў у першай палавіне 1950-х гадоў гістарычны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту ў Бэльгіі, а пасьля даўгі час быў супрацоўнікам Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне, займаючыся там пытаньнямі гісторыі й гістарыяграфіі.

Сваю манаграфію „У сьвятле гістарычных фактаў” Урбан прысьвяціў у васноўным тром разьдзелам працы Абэцэдарскага, а гэта: „Хто па свайму паходжаньню Беларусы?” — „Ці йснавала ў мінулым беларуская дзяржава?” ды „ ‚Народапраўства’ і ‚Залаты век’ ”.

Прафэсар Абэцэдарскі, піша Павал Урбан, „інкрымінуе Беларусам за мяжой тое, што яны ‚выконваючы загад сваіх сучасных гаспадароў’ (пад гэтым Абэцэдарскі падразумевае гэтак званых „амэрыканскіх імпэрыялістых”), ‚назоўліва’ прытрымваюцца гэтак званай ‚балцкай тэорыі’ паходжаньня беларускага народу”. На гэта Урбан адказвае, што „балцкая тэорыя паходжаньня беларускага народу, якая канстатуе, што ў паўстаньні гэтага народу меў удзел балцкі (неабавязкава „літоўскі”) субстрат, — гэта ніякі ня ‚вымысел’ нейкіх ‚беларускіх нацыяналістаў’. Тэорыя гэтая йснуе ўжо даўно, яшчэ ад мінулага стагодзьдзя, і яна ўзьнікла найперш у васяродзьдзі расейскіх ды польскіх навукоўцаў”. Урбан падае прозьвішчы навукоўцаў — Галубоўскага, Качубінскага, Карскага, Пічэты, Сядова, Аляксеева ды іншых — называе іхныя працы ды зазначае, што ім-жа ніякага „беларускага нацыяналізму” ня прыпішаш. Гэткім парадкам, робіцца відавочнай бязгрунтоўнасьць атаесамляньня прафэсарам Абэцэдарскім прыхільнікаў „балцкае тэорыі” з гэтак званымі „беларускімі буржуазнымі нацыяналістымі”.

Асабліва шмат увагі прысьвяціў Павал Урбан разьдзелу, што ў працы Абэцэдарскага загалоўлены „Ці йснавала ў мінулым беларуская дзяржава?” Праф. Абэцэдарскі цьвердзіць, што не. „Да Вялікае Кастрычніцкае сацыялістычнае рэвалюцыі, — піша ён, — ніколі ня было беларускае дзяржаўнасьці” (б. 40). Урбан тымчасам, спасылаючыся на шэраг гістарычных крыніцаў і працы некаторых савецкіх гісторыкаў, сьцьвярджае, што Полацкае княства, прыкладам, кажучы словамі савецкага гісторыка й археалёга Аляксеева, „прадстаўляла найбольш самастойную палітычную адзінку старажытнае Русі”, або, ужываючы словы іншага савецкага гісторыка Улашчыка — „фактычна ніколі не падначальвалася Кіеву” (б. 15). Паўстае ‚зразумела, пытаньне: дзяржавай якога-ж народу было Полацкае княства?

Дзеля таго, што праф. Абэцэдарскі ўважае Вялікае Княства Літоўскае за „дзяржаву літоўскіх фэўдалаў” — „літоўскіх” у сучасным разуменьні гэтага слова, Урбан падае ў сваёй кнізе масу фактаў пра палітычную структуру Вялікага Княства Літоўскага, пра зьмест і сэнс слова „Літва” ў тых далёкіх стагодзьдзях, паходжаньне й геаграфію тэрміну „Белая Русь”. З усіх гэтых фактаў, як і з часткавага абмяркоўваньня іх савецкімі гісторыкамі, вынікае, што гістарычны тэрмін „Літва-літоўскі” аніяк ня можа быць ужываны, як гэта робіць праф. Абэцэдарскі, у ягоным сучасным значаньні. Гістарычныя „Ліцьвіны” былі прашчурамі сучасных Беларусаў. Урбан падае выпіску палаціне з працы рымскага аўтара Пікаляміні пачатку 16-га стагодзьдзя, у якой мова Ліцьвіноў завецца „славянскай”. „Пра тое, што ‚мова Ліцьвіноў — славянская’ й што ‚Ліцьвіны — славянскі народ’, — падае далей гісторычныя факты Урбан супраць „неабвержных” фактаў Абэцэдарскага, — пісалі таксама Гартман Шэдэль у ‚Сусьветнай хроніцы’ (1493 год), дырэктар Нюрнбэрскай Лаўрэньцеўскай гімназіі Ян Кокле Норык у геаграфічным нарысе ‚Дэкастыхон’ (1511 год), Ян Багемскі ў працы ‚Звычаі ўсіх народаў’ (1538 год), аўстрыйскі дыплямат Жыгімонт Гэрбэрштэйн у ведамай ‚Гісторыі Маскоўшчыны’ (1549 год)” і г. д., і г. д.

У сьвятле гэтых фактаў робіцца зразумелым, чаму, прыкладам, Літоўскі Статут, збор законаў Вялікага Княства Літоўскага XVI ст., пісаўся беларускаю моваю.

Павал Урбан на аснове гістарычных фактаў паказвае таксама, што сучаснага назову „Беларусь” ці „Белая Русь” нельга аўтаматычна пераносіць у мінулыя стагодзьдзі, як гэта, ізноў-жа, робіць праф. Абэцэдарскі. Зь гістарычных фактаў відаць, што тэрмін „Белая Русь” у розных часох тарнаваўся да розных частак Усходняе Эўропы, у тым ліку да Маскоўшчыны, Пскову, Ноўгараду ды некаторых украінскіх земляў (б. 65). „Тэрмін ‚Белая Русь’, — адзначае таксама Урбан, — ня сустракаецца ні ў дзяржаўных актах ВКЛ, ні ў гэтак званых ‚літоўскіх летапісах’, улучна з Быхаўцавай і Баркулабаўскай хронікамі. Не сустракаўся ён і ў ведамых мэмуарах А. С. Радзівіла, пісаных у 1632-56 гадох. Дарэчы, — піша далей Урбан, — ведамы прыхільнік маскоўскіх цароў манах зь Берасьцейшчыны Апанас Філіповіч, які шмат вандраваў па Вялікім Княсьцьве Літоўскім і пабываў у Маскоўшчыне, у сваім „Дыярыюшы”, пісаным у 1640-х гадох, пад ‚Белай Русяй’ яшчэ разумеў Маскоўшчыну”.

З гэтага Урбан робіць выснову, што тэрмін „Белая Русь” пашыраўся з Маскоўшчыны, асабліва, калі ўзмоцнілася экспаньсія яе ў кірунку Балтыцкага мора.

З пытаньнем пра значаньне тэрмінаў „Літва” і „Белая Русь” у пару Вялікага Княства Літоўскага цесна зьвязанае й пытаньне пра нацыянальнасьць тых, хто стаяў пры ўладзе ў гэтай дзяржаве. Праф. Абэцэдарскі піша, быццам Вялікае Княства Літоўскае было „дзяржавай літоўскіх фэадалаў” (б. 29). Але кім-жа былі гэныя „літоўскія фэадалы”? Павал Урбан у сваёй кнізе падае даўгі сьпіс прозьвішчаў паноў Вялікага Княства Літоўскага зь гістарычных дакумэнтаў: паны Радзівілы, Сапегі, Хадкевічы, Пацы, Ільлінічы, Зяноўевы, Кішкі, Саковічы, Храбтовічы, і гэтак далей. Усе яны займалі розныя дзяржаўныя становішчы, былі носьбітамі цэнтральнае й мясцовае ўлады. Паходзілі яны з самых розных мясцінаў сучаснае этнаграфічнае Беларусі, шмат хто зь іх быў праваслаўнага веравызнаньня, карысталіся яны беларускай мовай. Дык кім-жа былі гэныя гістарычныя „літоўскія фэадалы”?

Займаецца Урбан у сваёй працы таксама разглядам гістарычных фактаў, што маюць дачыненьне да іншых цімалаважных тэмаў, як рэакцыйнасьць і палітычная функцыя маскоўскага праваслаўя, тэрор апрычніны й заваёўніцкае палітыкі Івана Грознага, спусташальныя войны Пятра Першага, цяжар прыгоньніцкае палітыкі Кацярыны Другое ды іншыя аспэкты жыцьця сацыяльных нізоў за царамі.

У параўнаньні, кажа Урбан, палажэньне жыхарства ў Вялікім Княсьцьве Літоўскім і Рэчы Паспалітай было не цяжэйшым, як гэта цьвердзіць праф. Абэцэдарскі, а лягчэйшым.

Манаграфія Паўла Урбана „У сьвятле гістарычных фактаў” — вартасны й сьваечасовы ўклад у беларускую гістарычную навуку перш-наперш тым, што яна звараче ўвагу на цэлы шэраг нязвычайна важных, але не распрацаваных сыстэматычна й усебакова, пытаньняў беларускае гісторыі. Найважнейшае з гэтых пытаньняў — гэта пытаньне гістарычнае тэрміналёгіі: які сэнс укладаўся за даўнымі часамі ў словы „Літва-літоўскі”? Якое было спачатнае значаньне слова „Белая Русь”? Якая геаграфія й храналёгія пашырэньня гэтага тэрміну?

Далейшае ўсебаковае й дэтальнае вывучэньне гэтых аспэктаў беларускае мінуўшчыны становіць важны элемэнт у разьвіцьці нацыянальнае самасьведамасьці нашага народу.

**Я. Запруднік**

## НА МІЖНАРОДНАЙ ВЫСТАЎЦЫ ПАТЭНТАЎ

Беларускі інжынер Вітаўт Ромар з Мантрэалю і ягоны суродзіч інж. Аляксей Сянкевіч зь Нью Ёрку ўзялі ўдзел у міжнароднай выстаўцы патэнтаў, што адбылася ў Нью Ёрку ў гатэлі „Гілтан” ад 26-30 сакавіка сёлета. У выстаўцы ўзялі ўдзел вялікія фірмы й вынаходнікі-адзіночкі з 56 краінаў. Інж. Ромар і Сянкевіч паказалі 39 сваіх вынаходстваў, зь іх 12 апатэнтаваных (сярод іх — электраапарат для забіваньня шашалі, аўтаматычная цыгарэтніца для аўтамабілю, аэраіянізатар, выпрабавальнік транзістараў, 17 мадэляў цацак, і г. д.). Мэтай выстаўкі было навязаньне лучнасьці з прадстаўнікамі прамысловасьці. У гэтым сэньсе нашыя суродзічы дасягнулі пэўнае ўдачы. Апрача гэтага, яны здабылі залатыя мэдалі й граматы.

Інжынер А. Сянкевіч нарадзіўся на Беларусі, але ў раньнім веку выехаў з бацькамі на Ўкраіну, там-жа ў Днепрапятроўску здабыў вышэйшую інжынерную асьвету (1928 г.).

Інжынер В. Ромар да вайны жыў у Менску, дзе шмат займаўся грамадзка-культурнай і навуковай працай: быў асабістым сакратаром акадэміка Ўсеvалода Ігнатоўскага (1926 г.), сакратаром калегіі Міністэрства Асьветы (1927 г.), працаваў у Інбелкульце (карэспандэнт навукова-фізычнае сэкцыі), і г. д. Інж. Ромар захаваў вельмі цікавыя ўспамыні з тых часоў, шмат фактаў зь беларускае гісторыі ведае зь першых крыніцаў.

Што да навуковых вынаходстваў, дык, як ён сказаў прадстаўніку рэдакцыі „Беларуса” (да чытачоў якога ён належыць), у яго яшчэ цэлая сотня ідэяў. Шчасьці Божа абаім!

### АНГЛАМОЎНАЯ ГАЗЭТА ПРА БЕЛАРУСАЎ

Афіцыйны орган Рэспубліканскай Фэдэрацыі Нацыянальнасьцяў у Нью Джэрзі „Гэрытэдж Рэвю” за студзень сёлета зьмясьціў шмат матарыялу пра Беларусаў Амэрыкі й наагул на беларускія тэмы: пра ўдзел Беларусаў у выбарах Прэзыдэнта Ніксана; пра беларускія рэлігійна-грамдзкія цэнтры ў Нью Брансьвіку й Саўт Рывэры; пра выстаўку у Ньюёркаўскай Публічнай Бібліятэцы, прысьвечаную Янку Купалу й Якубу Коласу; артыкул Д-р В. Кіпеля да гісторыі беларускае эміграцыі ў ЗША; інфармацыйны артыкул В. Зубкоўскага пра беларускіх вэтэранаў; карэспандэнцыю Алесі Кіпель зь дзейнасьці беларускае моладзі. Увесь беларусаведны матарыял добра апрацаваны, лёгка чытаецца й вельмі інфарматыўны. Калі-б хто жадаў мець гэты нумар або даставаць наступныя (у якіх таксама будзе пісацца на беларускія тэмы), хай зварачаецца на наступны адрыс:

N. J. Heritage Federation
V. Kipel
230 Springfield Ave.,
Rutherford, N. J. 07070

## *У БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ*

### ГАДАВЫ ПЕРАВЫБАРНЫ СХОД АШАЎСКАЙ САМАПОМАЧЫ

У сыботу 2 сакавіка ў памешканьні сп-ні Ані Мышкоўскай адбыўся гадавы перавыбарны Сход Беларускай Самапомачы ў Ашаве. Былі праслуханыя справаздачы сяброў адыходзячае ўправы (М. Бохар, А. Тарасэвіч, Ул. Пасевіч), зь якіх было відаць, што арганізацыя правяла колькі добрых імпрэзаў дзеля павялічэньня сваіх прыбыткаў. Самапомач выплачвала дапамогі патрабуючым у выніку розных бедаў ці патрэбаў. У склад новае ўправы выбраныя аклямацыямі: Г. Харэвіч — старшыня, В. Харэвіч — скарбнік, І. Курыкшук — сакратар. У Кантрольную Камісію выбраныя: А. Тарасэвіч, Ул. Пасевіч і М. Багдан.

**А. -віч**

### ЦЭННЫ НАБЫТАК

У сыботу 3 сакавіка ў сябе дома ведамы пісьменьнік Кастусь Акула разам з жонкаю частаваў ладную колькасьць запрошаных сяброў-гасьцей не на абы якой урачыстасьці. Гэта быў „хрост” ягонай за собскія грошы нядаўна набытай на сплату ратамі машынкі для складаньня (адбіваньня) тэксту шрыфтам цалком адменным спосабам, як гэта робіцца складаньнем уручную або на лінатыпе ці манатыпе, ведамай пад назовам „Вэрытайпэр”. Дзеля арыентацыі падаю, што ягоная англамоўная аповесьць „Тумороў іс естэрдэй” надрукаваная гэткім спосабам. Собсьнік зь вялікай ахвотай прадэманстраваў гасьцём ужо набытую практыку і ўмельства, як і працэс апэраваньня й друкаваньня на вэрытайпэры. Трэба думаць, што беларускае грамадзтва рознымі сваімі замаўленьнямі паможа зьвярнуць высокія затраты із собскае кішані (звыш 3-х тысячаў даляраў) на набыцьцё гэтае конча патрэбнае прылады.

**Хвядос Прылепскі**

### ВІЗЫТА РУМЫНАЎ

Парахвіяне Румынскай Праваслаўнай Царквы ў Кічэнэр (Канада), настаяцелем якое зьяўляецца шмат каму зь Беларусаў добра ведамы а. М. Танэсэ, асабліва парахвіянам царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Тароньце, якой ён часова апякуецца апошнімі тыднямі таксама, прыбылі паважнай грамадою ў вадведзіны ў Таронта ў нядзелю 25 сакавіка. У гонар іх пасьля набажэнства быў зладжаны супольны абед у царкоўнай залі.

### ПАДЗЯКА

Усім сябром і прыяцелям майго мужа сьв. пам. Мячыслава Рачыцкага, а таксама маім сваяком, што прысутнічалі на паховінах і дапамаглі нам фінансава, гэтай дарогай складаем шчырую падзяку. Асаблівую падзяку складаем сп-ву Марыі й Міколу Ганьком. Шчыра дзякуем і ўсім сябром Нябожчыка за іхныя прыхільныя ўспаміны аб ім у прэсе.

**Антаніна Рачыцкая й дзеці (Веслаў, Эля й Янка)**

### НОВЫ ЭМІГРАЦЫЙНЫ РЭГУЛЯМІН

Ад 1 студзеня 1973 увайшоў у сілу новы Канадыйскі Іміграцыйны Рэгулямін, які забавязвае ўсіх турыстых, што прыбываюць у Канаду з намерам тут працаваць, парупіцца пра дазвол (візу) на працу. Тое-ж датычыцца й да тых турыстых (наведвальнікаў), што плянуюць свой побыт у Канадзе звыш трох месяцаў. Яны цяпер павінны рэгістравацца дзеля атрыманьня дазволу на працу ў бліжэйшым іміграцыйным бюры.

Штогоду наведвае Канаду каля 38 міліёнаў турыстых. Шмат якія зь іх заставаліся на даўжэйшы побыт і прыймалі працу, што спрычынялася ў некаторай меры да большага ліку беспрацоўных гэтае краіны. Таму Канадыйскі ўрад, падобна ўрадам ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі, з мэтаю кантролю турыстых і працадаўцаў і ўвёў гэтае мерапрыёмства. За нарушэньне згаданага Рэгуляміну ўведзеныя кары: грашовы штраф вышынёю да 500 даляраў або 6 месяцаў зьняволеньня, або адно й другое, улучна з дэпартацыяй з Канады.

**(„Канадыйская Сцэна”)**

## *У БЕЛАРУСАЎ КАЛІФОРНІІ*

### НА ВЕЧАРЫ Ў ЧЭХАЎ

У сыботу 24 сакавіка ў вялікай бальнай залі рэстарану Раджэра Янга ў Лёс Анджэлесе адбылася праграма амэрыканскіх Чэхаў пад знакам „25 гадоў Чэхаславаччына яшчэ акупаваная й будзе вольнай узноў”. Вечар з абедам і танцамі падтрымалі іншанацыянальныя групы з арганізацыі „Амэрыканцы за Свабоду Паняволеных Народаў”, старшынём якое Ван Горх чэскага паходжаньня. Ён-жа із жонкай быў адным з актыўных арганізатараў вечару. Кругом залі на сьценах з абодвых бакоў былі вялікія плякаты, якія гаварылі пра розныя краі-ахвяры савецкай акупацыі й лік гадоў гэтае акупацыі. Беларускі плякат гаварыў: „Беларусь 55 год пад савецкім панаваньнем”. Вечар наведаў і Бурмістр Лёс Анджэлесу Сэм Ёрты. Ад Беларусаў прыймалі ўдзел у вечары Ю. і Ч. Найдзюкі.

### СПАТКАНЬНЕ З БУРМІСТРАМ

У сыботу 17 лютага адбылося спатканьне прадстаўнікоў паасобных нацыянальных групаў Лёс Анджэлесу з Бурмістрам гэтага гораду Сэмам Ёрты дзеля падтрыманьня ягонае кандыдатуры ў перавыбарах бурмістра на новую кадэнцыю. Пасьля інструкцыяў для выбарнай кампаніі й прывітаньняў з бурмістрам, адбылося супольнае зь ім фатаграфаваньне. Ад Беларусаў у спатканьні прыймалі ўдзел Ю. і Ч. Найдзюкі.

### ШУКАЮЦЬ

**Мікалая Андрэевіча Аўсеенку,** 1929 г. нараджэньня ў в. Кавалі Бабруйскага раёну Магілеўскай вобласьці — шукае маці Барбара Кірылаўна Оргіш;

**Анастасію Фёдараўну Хвашчынскую** (дзявоцкае прозьвішча Парахневіч), 1910 г. нараджэньня ў в. Варотынь Бабруйскага раёну Магілеўскай вобласьці — шукае сястра;

**Мікалая Якаўлевіча Бандарчука,** 1922 г. нараджэньня ў пасёлку Красная Горка, Кавалеўскага сельсавету Бабруйскага раёну Магілеўскай вобласьці — шукаюць Вольга Хомічна Бандарчук і Якаў Хомічаў Бандарчук.

Весткі пра ўсіх трох слаць на адрыс:

Mrs. Lidia Bilous
428 Hellerman Street
Philadelphia, Pa. 19111

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД “БЕЛАРУСА”

**За папярэдні пэрыяд (месяц сакавік) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса”:**

**1. ЗША:**

**А) Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. М. Абрамчык | $ 20.00 |
| 2. Г. П. | 20.00 |
| 3. Е. Жызьнеўская | 20.00 |
| 4. В. і М. М. | 20.00 |
| 5. А. Барсук | 20.00 |
| 6. М. Прускі | 15.00 |
| 7. Э Гайбэвіціюс | 12.00 |
| 8. М. Лапушынскі | 10.00 |
| 9. Я. Крэсла | 10.00 |
| 10. М. Кунцэвіч | 10.00 |
| 11. К. Ленька | 6.00 |
| 12. Хв. Ш. | 6.00 |
| 13. Т. Пятроўскі | 6.00 |
| 14. а. П. Шпірук | 6.00 |

**Разам: $ 181.00**

**Б) Заахвяравалі на сьвяткаваньні 55-х угодкаў Акту 25 Сакавіка ў Нью Ёрку:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р Ул. Набагез | $ 100.00 |
| 2. Ф. Бартуль | 50.00 |
| 3. П. Міранович | 15.00 |
| 4. М. Кунцэвіч | 10.00 |
| 5. З. Станкевіч | 10.00 |
| 6. М. В. | 10.00 |
| 7. А. Міцкевіч | 10.00 |
| 8. М. Тулейка | 10.00 |
| 9. Ф. Романо | 10.00 |
| 10. А. Калынык | 10.00 |
| 11. М. Кіпель | 5.00 |
| 12. З. Кіпель | 5.00 |
| 13. П. Кажура | 5.00 |
| 14. П. Драздоўскі | 5.00 |
| 15. С. Гутырчык | 5.00 |
| 16. Л. Стагановіч | 5.00 |
| 17. Я. Азарка | 5.00 |
| 18. Ул. Сьліўка | 5.00 |
| 19. Р. Б. | 5.00 |
| 20. Я. Сокал | 5.00 |
| 21. А. Балькалоўскі | 5.00 |
| 22. І. Крамарэнка | 5.00 |
| 23. К. Верабей | 5.00 |
| 24. Ю. Андрусышына | 5.00 |
| 25. Р. Вэг | 5.00 |
| 26. З. Умінскі | 5.00 |
| 27. М. Сільвановіч | 3.00 |
| 28. В. Стома | 3.00 |
| 29. Г. Белавус | 1.00 |
| 30. Ананімна | 4.00 |

**Разам: $ 326.00**

**II. КАНАДА:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р В. Жук-Грышкевіч | $ 15.00 |
| 2. М. Попель | 10.00 |
| 3. А. Протас | 10.00 |
| 4. В. Касьцюкевіч | 6.00 |
| 5. П. Канцавы | 6.00 |
| 6. Л. Карыба | 6.00 |

**Разам: $ 53.00**

**III. АЎСТРАЛІЯ:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р А. Бразоўскі ад Беларусаў Заходняй Аўстраліі | $ 70.00 |
| 2. М. Нікан ад Беларусаў Вікторыі | 22.60 |

Разам: $ 92.60

**АПЛАТЫ ЗА КЛІШЫ, АБВЕСТКІ Й СЯМЕЙНУЮ ХРОНІКУ**

| | |
|---|---|
| 1. Л. Білоус за пошукі | $ 15.00 |

**Разам: $ 15.00**

**Усяго разам: $ 667.60**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса” выказвае шчырае беларускае дзякуй!**